ISSN 0320-7579

№ 3/2015(1042)

# Бярозка



*Калі ў галаве шмат ідэй*

**ІНТЭРВ'Ю З МІНІСТРАМ**

**СІТУАЦЫЯ «ПЛЮС»**
Трэцяя лішняя

**«ШЭЎРАЛЕ» ЯНКІ КУПАЛЫ**
Адна дэталь

**ЖУДАСНЫ ДЗІВОСНЫ 8 «В»**
Расследаванне

**ТЭА**
Яго рэчаіснасць

Малюнак Ганны Пацюшка

## ДЗЁННІК НАСТАЎНІКА

# І запінка з выявай танка

***Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы прадстаўляе***



Статуэтка «Сабака з мышшу». Пачатак XX стагоддзя. Падорана Янкам Купалам і яго жонкай Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч Вікенцію Францавічу Станкевічу на дзень нараджэння. Вікенцій Станкевіч — родны брат Уладзіславы Францаўны Луцэвіч. Перададзена музею самім Вікенціем Францавічам.

Гадзіннік ад аўтамабіля «шэўрале». Гэты аўтамабіль Янка Купала атрымаў у падарунак ад урада Беларусі ў 1939 годзе. «Калі на мінскіх вуліцах з'явіліся першыя аўтамашыны, беларускі ўрад адну з такіх машын падарыў народнаму паэту. Але Янка Купала не любіў карыстацца ёю адзін. Па яго просьбе шафёр часта спыняўся і запрашаў пад'ехаць паэтавых знаёмых альбо якога-небудзь вясковага дзеда, які прыехаў у сталіцу па асабістых справах і зусім разгубіўся, трапіўшы ў гарадскую сумятню», — згадваў Сяргей Грахоўскі, беларускі паэт.

Запінка з выявай танка. Запінка — засцёжка, якую ўстаўляюць у пятлю манжэта ці каўнерыка мужчынскай кашулі. Гэта запінка належала Янку Купалу ў 1930-я гады. Перададзена музею Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч.



Ручка ад кійка Янкі Купалы. Пачатак XX стагоддзя. Янка Купала заўсёды хадзіў з кійком. Гэта прыкмета шляхетнасці, інтэлігентнасці, а яшчэ гэта было вельмі зручна і дапамагала пры хадзе. Свой кіёчак паэт жартаўліва называў «мой конь». Перададзена музею Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч.



Чарніліца ў выглядзе галавы сабакі. Пачатак XX стагоддзя. Належала Язэпу Францавічу Сушынскаму, знаёмаму Янкі Купалы. У 1910—1913 гадах яны абодва жылі ў Пецярбургу, былі актыўнымі ўдзельнікамі Беларускага літаратурна-драматычнага гуртка, створанага пры Пецярбургскім універсітэце. «Уся беларуская студэнцкая і рабочая моладзь, што жыла ў Пецярбургу, нецярпліва чакала спаткання з Янкам Купалам. Дзе ж магло адбыцца гэтае спатканне? Толькі ў двух месцах: на «суботніках» на кватэры Браніслава Ігнатавіча Эпімах-Шыпілы, дзе жыў пясняр, ці на нядзельных рэпетыцыях хору і драматычнага гуртка», — успамінаў Язэп Сушынскі. Перададзена ў дар музею самім Язэпам Францавічам.

***Дзе гэта можна ўбачыць: Мінск, вул. Янкі Купалы, 4.***



Мастачка Юлія УСАВА

# Вясна – гэта стан душы!

## СОНЕЧНЫ ЗАЙЧЫК

Раннім ранкам па сцяне
Бегаў дзіўны зайчык.
Пасядзеў ён на акне,
Сонейка акрайчык.
Па падлозе пахадзіў,
Перабег на дзверы.
Ну, а потым на стале
Праглядзеў паперы.
А затым адпачываў,
Сеўшы на падушку.
Калыханку мне спяваў
Ціхенька на вушка.

*Валянціна БАРЧАН,*
*6 клас, Залеская СШ, Чачэрскі раён*

## РОЗДУМ

Ідзе ўрок…
Урок літаратуры…
Найлепшы для мяне,
Найцікавейшы час!
З настаўнікам мы разам
То ў мінулым,
А то ў сучаснасці…
Усё кранае нас!

Пісьменнікі…
Іх творы і сюжэты…
Як сярод кніг жыццёвы сэнс знайсці?
Хто я?
Як я жыву на свеце гэтым?
Ці так,
Ці ўсё ж не так
Ступаю па жыцці?

Я разгадаць хачу
Адвечную праблему:
Як трэба пастунаць?
Што трэба выбіраць?
Каб лёсу горкага ў жыцці
Пазбегнуць
І каб сябе ні ў чым
Не дакараць!

Бацькі?
Яны ж заўсёды занятыя!
Вавёркамі бягуць
Па кругаверці дзён…
Настаўнікі?
Як ім даверыць думкі тыя,
Што пра каханне,
Пра таемнае,
Пра сон…

## МНЕ СНІЎСЯ СОН

Мне сніўся сон,
Што я, нібыта птушка,
У небе лётаю…
Вакол блакіт, прастор!
Я п'ю блакіт,
Лунаю над зямлёю,
Шчаслівая
Ля сонца і між зор!

***Кацярына САЛАЎЁВА,***
***9 клас, СШ № 34, Мінск***



*Мастачка Юлія УСАВА*



Мастачка Юлія УСАВА

## ВЯСНА

«Што адбываецца, калі тае снег?» —
Спытаецеся вы.
Звычайна людзі на гэта адказваюць,
Што тады пачынае расці трава,
Расцвітаюць кветкі,
Прылятаюць птушкі.
Але я скажу вам іншае:
«Проста прыходзіць вясна!»
Вясна — гэта не толькі трава альбо птушкі,
Вясна — гэта стан душы!
Людзі становяцца лепшымі і весялейшымі,
Быццам бы і яны,
Як і прырода ў цэлым,
Прачынаюцца ад доўгага зімовага сну.
Іх сэрцы адтайваюць ад халоду і сцюжы…
Скажыце, а хіба ж вы
Не адчувалі такога ва ўласным жыцці?

*Арына ВЯРБІЦКАЯ,*
*11 клас, гімназія № 75, Мінск*

## БЕЛАРУСЬ

Я люблю Беларусь,
Яе рэкі, азёры,
Лясы і палі
Пад зялёным шатром.
Белавежская пушча
Альбо Мінскае мора —
Гэта ты, Беларусь!
Гэта родны мой дом!

Я люблю Беларусь —
Тут радзіма мая!
Я табой ганаруся,
Ты — матуля мая!

*Валерыя СЛЮНЬКОВА,*
*10 клас, гімназія № 75, Мінск*

Італія спачатку называлася Віталія, што азнала «краіна цялят». Спачатку пад гэтай назвай мелася на ўвазе Паўднёвая Італія, дзе і сапраўды ў антычныя часы было шмат буйнай рагатай жывёлы.

## ХАТНІ ЗААПАРК

У маёй суседкі Валі
(Можа, вы ў яе бывалі?)
Дома — цэлы заапарк.
Сапраўды, усё гэта так:
Коткі дзве, сабачка Найда,
А ў яе шчаняткі…
І падобныя яны,
Нібыта блізняткі!
Ёсць хамяк з мянушкай Шурык
Хітры, вёрткі, быццам вуж.
А як хоча пачастунак —
Робіць выгляд, што нядуж.
Вожык месціцца ў каробцы,
Жабка ў місцы, побач мыш…
І няма спакою Валі,
З гаспадаркай — не паспіш!
Ловіць мух і тараканаў,
Носіць кветкі і траву.
Калі заўтра ўстану рана,
Я сяброўцы памагу!

***Ганна ХРЫСЦІНА,***
***8 клас, Залеская СШ, Чачэрскі раён***

## СЯБРОЎКА ІРКА

Цудоўныя карыя вочы
Ласкава глядзяць на мяне.
Прыгожанькі тварык дзявочы
Смяецца, нібыта пяе.

Яна быццам сонейка свеціць…
І знаю, і ведаю я,
Што найцікавейшая ў свеце
Ірынка, сяброўка мая!

І ведаю, лепшай сяброўкі
Не здолею я адшукаць!
Няхай памаўчаць балаболкі —
Я з Іркай хачу сябраваць!

***Ірына КУЛІНІЧ,***
***10 клас, СШ № 3, Пружаны***

Суомі — так часта называюць Фінляндыю. А ў перакладзе з фінскай мовы «суомі» азначае «балота».

***Цэнтральны савет Грамадскага аб'яднання «Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда» прадстаўляюць творчасць удзельнікаў конкурсу***
«Ніколі не забудзем: унукі пра вайну»

# Дарогі страшэннай вайны ляжаць на дзядулевым твары

## Я ЗУСІМ НЕ ВЕДАЮ ВАЙНЫ

Зарастаюць раны на Зямлі,
Зелянеюць шчодрыя палеткі…
Я зусім не ведаю вайны,
Каля сцежкі я зрываю кветкі.
Ведаю, што тут ішлі баі,
За Радзіму гінулі салдаты.
Кроў сваю на кветкі пралілі
І ўжо не вярнуліся дахаты.
Дзякую, што сёння я жыву,
За маё шчаслівае дзяцінства!
Кветак каля сцежкі я нарву,
Каб пакласці іх ля абеліска!

***Уладзіслаў ЛЕНКАВЕЦ,***
***5 клас, Арэшніцкая БШ, Клецкі раён***



*Сястрычка.*
*Ксенія Дзяркач, 12 гадоў, Мінск*



## ВЕТЭРАНЫ

Так даўно адгрымелі баі,
Франтавыя забыліся раны.
Але й зараз яны ў страі,
Той страшэннай вайны ветэраны.

Сняцца ім Перамогі салюты,
Пахкі дым партызанскіх кастроў.
І дарогі вайны не забыты,
Як і твары ваенных сяброў.

Дзякуй ім за свабоду Айчыны
І за шчасце на роднай зямлі!
Яны — гонар і слава Радзімы!
Каб у памяці вечна жылі!

***Аліна ВІЛЬНЯВЕЦ,***
***6 клас, СШ № 2, Стоўбцы***



*Недзіцячыя гульні.*
*Яўгенія Свірыд, 15 гадоў, Гродна*





*І зноўку май.*
*Карына Дзямідзік, 13 гадоў, Гродна*



## НА ПАРАДЗЕ

На майскім парадзе ў Паставах
Ціхім шэптам звіняць медалі.
Бачыць герояў мы рады,
Пакланіцца ім да зямлі.
Пакланіцца за тую адвагу,
Што пранеслі яны праз вайну,
Паспытаўшы і голад, і смагу,
Горыч здрадніцтва, жахі, ману…
Іх снарады варожыя білі
На крывавых дарогах вайны,
З неба іх самалёты бамбілі,
Але выжылі цудам яны.
На франтах, у партызанскім атрадзе
Усё ў ахвяру тады аддалі…
А ў Паставах, на майскім парадзе,
Ціхім шэптам звіняць медалі…

***Руслан КУПРЫЯНАЎ,***
***6 клас, Курапольская БШ, Пастаўскі раён***



*Вораг не пройдзе.*
*Іна Бакай, 11 гадоў, Масты*



## ДАВАЙЦЕ РАЗАМ ПАМАЎЧЫМ…

Ссівелыя франтавікі…
Вас так няшмат! Вас гэтак мала…
Давайце разам памаўчым,
Успомнім тых, каго не стала.
Хто з грознай бітвы не прыйшоў
Сустрэцца з роднымі, з бацькамі,
Хто ўжо не здолее дамоў
Вярнуцца майскімі дзянькамі!
Яны ў зямлі сырой ляжаць,
Стаяць над імі абеліскі…
Давайце разам памаўчым,
Памерлых памянём па спіску!

***Валерыя МАКАРЭВІЧ,***
***9 клас, СШ № 2, Стоўбцы***

## ПАДЗЯКА

Мы ўдзячны адважным героям
Вялікай Айчыннай вайны!
За нашую волю, свабоду,

За нашы шчаслівыя дні!
Мы рады, што ў роднай краіне
Дастойна і мірна жывём.
За гэта павагі даніну
Мы вам ад душы аддаём!
Яшчэ шмат разоў адгукнецца
Далёкае рэха вайны…
Заўжды будуць жыць у нашых сэрцах
Героі вялікай вайны!

***Данііл КОБРЫК,***
***6 клас, СШ № 2, Стоўбцы***

## ДАВАЙ ПРА ВАЙНУ ПАГАВОРЫМ…

— Дзядуля, давай пасядзім,
Завесім ноч лёгкаю шторай.
Давай пагаворым…
— Аб чым?
— Давай пра вайну пагаворым.
Суровым становіцца твар
Дзядулі майго, ветэрана.
Ох, колькі ўжо вёсен запар
Старая не гоіцца рана.
Не робяцца светлымі сны,
Бо ў іх папялішчы, пажары…
Дарогі страшэннай вайны
Ляжаць на дзядулевым твары.
Успомніць ён зноўку сяброў
І бітваў крывавыя страты,
Агеньчык салдацкіх кастроў,
Гарматнага стрэлу раскаты.
Як цяжка было здабываць
Крывёю сваёй Перамогу!
Як млосна было паміраць,
Да шчасця прайшоўшы дарогу.
— Было, што было — адгуло! —
Дзядуля мне скажа паціху. —
Цяпер у нас мір і святло,
Забылася страшнае ліха!..
Закончыў свой сказ аб вайне…
Слязой засвяціліся вочы.
І зноў ён уздрыгвае ў сне,
Прысніўшы ваенныя ночы.
А я буду думаць пра лёс,





*Подзвіг юнай партызанкі Надзі Багданавай.*
*Ганна Рагоўская, 12 гадоў, Мінск*





*Вестачка з дому.*
*Валянціна Белякова, 12 гадоў, Жлобін*





*Вясна Перамогі.*
*Таццяна Царыкевіч, 12 гадоў, Парычы*




*Вяртанне.*
*Таццяна Царыкевіч, 12 гадоў, Парычы*

Што выпаў на дзедаву долю.
Ён мне падарыў сінь нябёс
І золата жытняга поля.
Бо ён ваяваў за вясну,
За яркае сонца, за шчасце!
Пазбавіў свой край ад напасці,
Адвёў ад унукаў вайну!

***Максім СІНЯК,***
***14 гадоў, Старадворская БШ, Пастаўскі раён***

## ЯК ДОБРА ЖЫЦЬ НА СВЕЦЕ БЕЗ ВАЙНЫ!

*Я была ў Брэсцкай крэпасці, глядзела экспанаты, здымкі музея. Жудасна стала на душы. Якое гора, жах адчувалі людзі ў час вайны! Страшна стала ад адной толькі думкі, што вайна можа пачацца зноў! І яшчэ падумалася: «Як добра жыць на свеце без вайны!».*

Як хораша прачнуцца на світанні,
І ведаць, што вайны даўно няма.
Як хораша паслаць зямлі вітанне
І з выраю сустрэць прылёт бусла!
Як добра раніцай сустрэцца з сонцам,
А ноч спакойна спаць і мроіць сны!
Як добра бачыць неба праз аконца!
Як добра жыць на свеце без вайны!
Да нашых дзён жыве ў народзе памяць
Пра шчасце пераможнай той вясны.
На скронях ветэранаў срэбра замець…
Як добра жыць на свеце без вайны!
Вайна прайшла, а боль жыве ў народзе,
Бярэдзіць сэрца і халодзіць кроў.
Жывём мы ў мірнай, добрай, дружнай згодзе…
— Як добра без вайны! — шапчу я зноў.
Жыві мой край! Красуйся год ад году!
Квітней Айчына-маці кожны дзень!
Жадаю шчасця я свайму народу,
Хай не кране яго вайны крывавы цень!

***Наталля СКІБІЦКАЯ,***
***14 гадоў, Вердаміцкая СШ, Свіслацкі раён***

***Ілюстрацыі: праект «Герои никогда не умирают, герои в нашей памяти живут» Грамадскага аб'яднання «Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя»***

# Куст парэчак

Вялікі сад быў у Анюцінай бабулі. Раслі ў ім грушы і яблыні, слівы і вішні. Былі і кусты парэчак. Завітала да Анюты сяброўка. Пакаштавала парэчак і просіць: «Выкапайце, калі ласка, мне кусцік». Анюта кажа: «Прыйдзеш восенню». Настала восень. Прыйшла сяброўка. Анюта падумала і кажа зноўку: «Прыходзь вясной». «Ведаеш, Анюта, лепей я завітаю зімою. Самы час будзе для пасадкі». І пайшла. «І чаго яна раззлавалася?» — падумала Анюта.

А вы як думаеце?

***Ліза ПАЛТАРАН,***
***2 клас, Калодзішчанская СШ, Мінскі раён***

# Дарагія мае фотаздымкі

Халоднымі зімовымі вечарамі мы з матуляй любім разглядваць фотаздымкі з сямейнага фотаальбома. Цудоўныя і цёплыя ўспаміны прыходзяць да мяне ў гэтыя імгненні.

Аднойчы я прапанаваў зазірнуць у мамін фотаальбом, які захоўваецца ў яе з дзяцінства. Вось адзін здымак. На ім маленькая светла-русая дзяўчынка гуляе з коцікам. На яе твары гарэзлівая ўсмешка, а ў вачах скачуць задорныя іскрынкі.

На другім здымку сур’ёзная выпускніца размаўляе з настаўніцай на школьным двары. Уважлівы выраз твару, разумныя вочы зацікаўлена глядзяць на педагога.

На трэцім здымку маладая жанчына з маленькім хлопчыкам гуляе па восеньскім парку. Мне прыемна, што гэты маленькі хлопчык — я. А яшчэ мне радасна, што мае рысы твару падобныя да матуліных, асабліва форма вачэй і вуснаў.

Гартаю фотаальбом далей, нібыта раблю «падарожжа ў часе». Так, час ідзе, але мая матуля зусім не змянілася за апошнія гады. Яе твар па-ранейшаму асвятляе лагодная ўсмешка. Доўгія светла-русыя валасы заўсёды ўкладзены ў прыгожую прычоску.

Мне падабаюцца ўсе фотаздымкі з гэтага незвычайнага альбома. Яшчэ не адзін раз я з цеплынёй і спагадай буду разглядваць іх.

А сваю маму лічу самай прыгожай.

***Дзяніс БУТОРЫН,***
***7 клас, гімназія № 1 імя Ф. Скарыны, Мінск***

# Мама

Гэта не проста першае слова кожнага дзіцяці. Гэта самы неацэнны скарб, які ёсць у кожнага! Мабыць, ніхто з нас, як падрасце, і не згадае, як ён калісьці вучыўся хадзіць і, зрабіўшы некалькі крокаў, падаў, часам даволі балюча. А маці з усмешкай брала сваё заплаканае дзіця на рукі, моцна яго абдымала і ціхенька шаптала на самае вушка: «Нічога, яшчэ навучышся».

І адразу ж з’яўлялася жаданне далей вучыцца хадзіць.

З такой самай спагадлівай усмешкай у цяжкую для кожнага хвіліну маці прытуліць да сэрца і ціха скажа: «Не хвалюйся, я з табой».

А яе вочы…

Ніколі ў матуліных вачах не ўбачыш стомы ад усёй той работы, што яна перарабіла за адзін толькі вечар. У яе вачах заўсёдны агеньчык радасці, які дапамагае нам верыць у сябе і ніколі не здавацца.

А рукі…

Пяшчотныя, тонкія, але такія моцныя, якія заўсёды аберагалі нас, падхоплівалі, калі мы спатыкаліся.

Цаніце сваіх матуль, часцей кажыце ім цёплыя словы пра сваю любоў да іх, дапамагайце і, самае галоўнае, беражыце, бо кожная мама — адзіная для сваіх дзяцей!

Зрабіце матуль шчаслівымі! Галоўнае шчасце маці — у тым, каб яе дзеці былі шчаслівымі.

*Аляксандр РАДЗІХОЎСКІ,*
*9 клас, Дворнасельская СШ, Міёрскі раён*

# Вясна

Гэта такі цудоўны час! Снег ператвараецца ў дыяментавыя раўчукі, якія бягуць і спяваюць сваімі галасамі-званочкамі. Ярказзяе на чыстым блакітным небе сонейка, радуецца, што цяпер зможа папесціць зямлю сваімі тоненькімі праменьчыкамі. Зямлю, якая яшчэ не зусім прачнулася ад сну пад белай снежнай пярынай. Праменьчыкамі, што яе адагрэюць.

Першыя птушкі спяваюць, вітаючы абуджэнне зямлі. Праўда, трава яшчэ зусім кволая і бездапаможная, але яна цягнецца ўжо да сонца, каб адчуць на сабе яго цудадзейнае святло.

Прырода паўстае перад намі ва ўсёй сваёй красе. І зноўку здзіўляе багаццем фарбаў, прыгажосцю і свежасцю.

*Аляксандра ГАЦІЛА,*
*9 клас, гімназія № 75, Мінск*

# Няскончаная казка




*Мастачка Юлія УСАВА*

Шмат гадоў таму ў невялікім горным мястэчку жыў мудры старац. Жыхары мястэчка звалі яго Мудрэц. Жыццё яго праходзіла спакойна. Кожны дзень асноўным заняткам былі гутаркі з вучнямі і парады тым, хто гэтых парад шукаў. Але аднойчы здарылася тое, што змяніла жыццё старца надоўга.

Мудрацу прыснілася, быццам ён чытае казку. А потым ён зразумеў, што ў казкі няма канца. Зразумеў і… прачнуўся.

Цэлы дзень ён не знаходзіў сабе месца, нічога не мог рабіць. Усе думкі былі заняты сном. Мудрэц пытаўся ў людзей, ці не чулі яны такой казкі, шукаў яе ў кнігах, але — безвынікова. Тады ён вырашыў сам прыдумаць для казкі канец.

Мінула шмат гадоў. За гэты час шмат заканчэнняў прыдумаў Мудрэц. Сумных і

пацяшальных, захапляльных і не вельмі, будзённых і фантастычных.

І ўсё яму здавалася, што гэта штосьці не тое…

І тут Мудрэц зразумеў: у тым і быў сэнс! Калі б ён прачытаў казку з канцом, то яна б засталася адна! Але казка з яго сну дала пачатак мноству іншых казак, кожная з якіх можа стаць асновай для яшчэ некалькіх. Вось чаму не ў кожнай гісторыі павінна быць заканчэнне!

Зразумеўшы гэта, Мудрэц надоўга паглыбіўся ў роздум. А затым пачаў пісаць кнігу з мноствам заканчэнняў той даўняй гісторыі з яго сну.

Мноства заканчэнняў — і адна няскончаная казка...

***Мікіта ЦЕЎ,***
***9 клас, СШ № 165, Мінск***

*Заяўка на Парнас*

# Было ў бацькі тры дачкі

Як я нарадзілася, у нас была вялікая сям'я — тата, маці, дзядуля і бабуля. Імя даў мне дзядуля, і з ім ніхто не спрачаўся: дзядуля — Васіль, а ўнучка — Васіліна. Бабуля, калі мне споўнілася чатыры гады, навучыла мяне ўсім літарам алфавіта, яна кожны дзень гладзіла мяне па галоўцы і прыгаворвала: «Дзетак трэба лашчыць, ад гэтага яны будуць разумнейшымі і дабрэйшымі». У бабулі і дзядулі, акрамя дачкі, быў сын, які памёр, калі яму быў усяго 21 год. І з таго часу да майго нараджэння, больш чым пятнаццаць гадоў, бабуля не спявала. А спяваць раней, казала маці, у сям'і любілі ўсе. Голас у бабулі быў ціхі, меладычны, і ад гэтага песні ліліся асабліва шчыра і пяшчотна.

Падрабязна жыццём сваіх продкаў я пачала цікавіцца не так даўно. А падштурхнула мяне да гэтага маці, калі пачала вывучаць польскую мову. Адным з яе практыкаванняў было намаляваць генеалагічнае дрэва, а потым расказаць па-польску што-небудзь пра свой род. Вось тады некалькі вечароў запар мама і тата наперабой расказвалі мне розныя гісторыі з жыцця сваіх бацькоў і сваякоў.

Таму цяпер у мяне ёсць магчымасць напісаць апавяданне пра мінулае сям'і маёй бабулі. А кожнае маленькае апавяданне складае вялікую гісторыю жыцця нашых продкаў.

Было ў бацькі тры дачкі, але, як кожны мужчына, ён марыў пра хлопчыка. Сын нарадзіўся здаровым і прыгожым. Усе любілі маленькага Чэсіка, а бацька Пятро марыў, якім ён будзе памагатым. Ды марам не давялося спраўдзіцца.

Як любое дзіця, Чэсік рос цікаўным да ўсяго. Як толькі пачаў хадзіць, не было ніводнага месца ў хаце, якое б малы не агледзеў. Аднойчы дзверы хаты аказаліся расчыненымі, і малы выйшаў на двор адзін. Тут да яго кінуўся сабака і вельмі напалохаў. Ад таго спалоху Чэсік захварэў так моцна, што праз нейкі час памёр. Так у бацькоў засталіся тры дачкі — Зіна, старэйшая, Клаўдзя, сярэдняя, і пяцігадовая Ірачка, будучая мая бабуля.

Сям'я Ірачкі жыла на хутары, які меў назву Салаўі. Хата стаяла на ўзгорку, унізе быў луг, і туды па сцежцы хадзілі да студні па ваду. Збегчы ўніз было лёгка, а ўзнімацца з вядром ці нават двума — цяжкавата. Ірачка па ваду не хадзіла, хадзілі старэйшыя, а зімой ваду цягалі на саматробных драўляных санках.

У той час альбо кожная сям'я працавала сама на сябе, альбо бяднейшыя наймаліся на працу да больш заможных суседзяў і такім чынам зараблялі сабе на жыццё. Сям'я Пятра працавала сама на сябе, асабліва беднай яна не была, такіх у той час

называлі аднаасобнікамі. Была гаспадарка: некалькі кароў, цяляты, свінні, куры, авечкі, коні. Высявалі збожжа і лён, быў і агарод, на якім раслі бульба, морква, буракі, цыбуля. І ўсё гэта трэба было даглядаць дзяўчатам.

Старэйшая дапамагала маці па гаспадарцы: даіла кароў, карміла і паіла жывёлу, а потым ішла разам з сёстрамі сушыць сена або палоць грады, або замяняла кагосьці на пашы, дзе разам пасвіліся авечкі і каровы. Пра гульні і вольны час тады забываліся, але нават у поле Ірынка заўсёды брала з сабой самаробныя цацкі — яны дапамагалі ёй праводзіць дзень без суму.

Старэйшым сёстрам час ад часу бацька дазваляў схадзіць на танцы ў Вялікую вёску, што ў чатырох кіламетрах ад хутара. Тады Ірачка шкадавала, што яна малая. А «танцы» — гэта альбо нечае вяселле, альбо проста танцы ў чыёй-небудзь хаце (а ўлетку і на двары) пад гармонік і цымбалы. Дзяўчаты вярталіся дахаты пад раніцу, і маці дазваляла ім паспаць даўжэй, сама даглядала гаспадарку. Вядома ж, бацька нешта бубнеў пад нос, але ўслых не казаў нічога.

Хачу расказаць, якое смачное масла рабілі на гэтым хутары. А яшчэ гаспадыня Ганна ўмела выпякаць вясельныя караваі. Як хацелася Ірачцы адламаць хоць кавалачак ад гэтай вялікай булкі і з'есці яго з малаком альбо і проста так, але ж ёй наказвалі толькі назіраць за тым, як маці гатуе каравай. Ці дазвалялі ўзбіваць яечныя бялкі…

Звернемся да масла. Мы, жыхары горада, такога не елі ніколі. Уся тэхналогія — гэта ручная праца. Малако адстойвалі, потым здымалі з яго вяршкі, пасля іх ставілі скісаць, каб ператварыліся ў смятану. Тады смятану злівалі ў драўляную ступку са спецыяльным кіем, да канца якога мацаваліся дзве перакладзінкі і білі гэтым кіем у ступцы да таго часу, пакуль смятана не ператваралася ў сонечна-жоўтае масла. Дзяўчаты збівалі масла па чарзе, Ірачка таксама ўдзельнічала. Сёстры казалі: «Як не дапаможаш, то потым масла нават не паспытаеш». Вядома, жартавалі, але Ірачка разумела, што працаваць трэба ўсім. Так было заведзена ў бацькоўскай хаце.

А наступнай раніцай маці пякла стос блінцоў і сям'я сядала іх есці: мазалі адзін блінец маслам, а другім у тое масла макалі. Вось гэта быў смак! Бацька смяяўся і прыгаворваў: «Усім вам з'есці трэба сем мазаных блінoў, сем немазаных і адзін так». І ўсе весела смяяліся.

Дзяўчаты-сёстры выраслі і павыходзілі замуж, але ў кожнай сям'і засталася традыцыя: у нядзелю пячы і есці мазаныя маслам блінцы. Праўда, такога смачнага масла, як у іх бацькоў, ужо няма. І бацькоў таксама ўжо няма…

Святам было паехаць з бацькамі на кірмаш. Летам ездзілі ўсе разам, а зімой Ірачку пакідалі дома пад наглядам адной з сясцёр. Бацькі прадавалі тое, што прывезлі, затым куплялі неабходныя для гаспадаркі рэчы і прысмакі. Вечарам вярталіся дахаты, і тады пры цьмяным святле газоўкі дзяўчаты красаваліся ў абноўках і весела шчабяталі, а бацькі глядзелі на дачок і радаваліся.

Зіму Ірачка не любіла. Старэйшыя сёстры кожны дзень, акрамя нядзелі, хадзілі ў школу ў Вялікую вёску, а ў моцныя маразы заставаліся ў сваякоў начаваць. У такія вечары Ірачка была адна з бацькамі, скубла ненавіснае пер'е, сумавала, чакала вясны і таго часу, калі таксама будзе хадзіць у школу.

Можна пісаць і пісаць пра жыццё Ірачкі, маёй бабулі. Яна вырасла і ў школу пайшла… і немцы на хутар прыходзілі, а бацькі дапамагалі партызанам. Калі дзяўчаты павыходзілі замуж, то пакінулі бацькоўскую хату і паехалі жыць у Вялікую вёску, а Ірачка — падалася ў Мінск. Уладкавалася на працу, выйшла замуж за Васіля, нарадзіла двух дзетак, а потым дачакалася і майго нараджэння.

***Васіліна КАВУНОВА,***
***9 клас, гімназія № 11, Мінск***

*За той час, што я існую, чуў так шмат розных гісторый, што ў маёй галаве яны крыху пераблыталіся. Пастараюся расказаць вам некаторыя, але ці было гэта на самай справе, ужо не памятаю…*





Мастачка Алеся ГАЛОТА

# Курачка

У адным горадзе ў людзей пачалі знікаць вочы. І ніхто не мог зразумець, чаму гэта адбываецца.

А здаралася так: у поўню ў дамах з'яўлялася чорная курачка, сядала на грудзі тым, хто спіць, і глядзела на іх. Калі чалавек ад гэтага прачынаўся, курачка склёвала ў яго вочы і знікала. А чалавек раніцай нічога не памятаў.

Адзін хлопчык прачнуўся ноччу і ўбачыў, што чорная курачка сядзіць на грудзях яго брата. Хлопчык закрычаў, і курачка знікла. Вочы ў брата засталіся, а хлопчык пачаў усім расказваць, што ён бачыў. Але ніхто ў горадзе яму не верыў. Акрамя суседа.

Гэты сусед працаваў у міліцыі. Звалі яго… капітан Цвік.

Следчы Цвік вырашыў з усім гэтым разабрацца. Ён дамогся, каб усім жыхарам горада на ноч прапісалі моцныя лекі для сну, а па ўсім горадзе ўсталявалі камеры начнога бачання і назірання.

І вось у бліжэйшую поўню адна з камер зафіксавала дзіўны цень, які ўзнік у раёне птушкафабрыкі. Цень хутка набыў абрысы курачкі і пабег па вулках у бок дома, дзе жыў Парфёнаў Рыгор Пятровіч майстар спорту па тэнісе.

Цвік падняў па трывозе групу захопу і, як толькі пачвара памкнулася трапіць у кватэру Парфёнава, на яе накінулі сетку.

Аднак сетка прайшла скрозь птушку, якая павярнула галаву і паглядзела на аператыўнікаў. Тыя адразу закрычалі ад жаху, бо ў курачкі вочы аказаліся чалавечымі і свяціліся жоўтым святлом! Толькі Цвік не разгубіўся і сфатаграфаваў монстра лічбавым фотаапаратам. У гэты час гаспадар кватэры, узброены тэніснай ракеткай, размахнуўся і нанёс ворагу знішчальны ўдар.

Монстр знік і ніколі больш не з'яўляўся ў горадзе. Калі ў міліцыі паспрабавалі вывесці яго фота на камп'ютар, на маніторы на імгненне ўзнік чорны сілуэт курачкі з жоўтымі вачыма, але потым адразу знік. І ўсе камп'ютары ў міліцыі заразіліся нейкім незнішчальным вірусам, які хутка распаўсюдзіўся па горадзе і па ўсім свеце. Вірус назвалі «Траянскі Кур», ён заразіў камп'ютары ўсіх, хто еў курынае мяса і яйкі.

А Цвіку ўсё роўна далі прэмію.

Вось такая казка. Ты напалохаўся? Як?! Гэта смешна?! Чакаю тваіх страшных гісторый! Спадзяюся, яны будуць жудасна… забаўнымі!

Да сустрэчы ў наступным нумары!

***Партрэт Аркашы намалявала Алёна ЛАРЫЁНАВА***

# Жывапісаць — жыва пісаць. Пісаць жыва. Пісаць — жыва!

Пры напісанні мастацкіх твораў іх аўтары абдумваюць кожнае слова, будову і гучанне кожнай фразы. Пра такі ідэальны *«адзіна магчымы парадак адзіна магчымых слоў»* (Л. Талстой) у вобразнай форме напісана ў аповесці Івана Навуменкі «Замець жаўталісця»: *«Не на сваім месцы слова ў сказе — і ад усяго сказа патыхае фальшам. У матэматыцы ад перастаноўкі складаемых сума не мяняецца, у літаратуры мяняецца».*

Вядома, напрыклад, як даражыў Леў Талстой кожным словам у сваіх творах. Амаль нікому не вядомы пісьменнік-пачатковец, Леў Талстой, адпраўляючы ў часопіс сваё апавяданне «Набег», прасіў рэдактара, каб той, калі захоча надрукаваць твор, не выпускаў, не дадаваў, а галоўнае, не замяняў у ім нічога. Можна прывесці і такі прыклад: Уладзімір Караткевіч на рэдактарскія заўвагі да свайго рамана «Каласы пад сярпом тваім» безапеляцыйна заявіў: *«І коскі з месца не зрушу».*

А выказванне пісьменніка Лазара Лагіна, аўтара вядомай аповесці «Стары Хатабыч», цікавае нам не толькі як аповед аб пакутах творчасці, але і напамін пра неабходнасць уважлівых і ўдумлівых адносін да працы пісьменніка, павагу да яго пакут: *«Наўрад ці задумваліся мае юныя чытачы, колькі сіл траціць пісьменнік на адну старонку кнігі, якую пры самым уважлівым чытанні можна прачытаць за дзве хвіліны. Сама меней дзень напружанай працы! Сядзіш, мучышся, пішаш і закрэсліваеш, пакуль не знойдзеш тое самае адзінае, самае пераканальнае і правільнае слова. А потым які-небудзь чытач у спешцы, у пагоні за сюжэтам і не зверне ўвагі на гэту народжаную ў цяжкай працы думку і сам сябе тым самым абкрадзе».*

*«Пошукі дакладнага, таго адзіна-адзінюсенькага слова — цяжкія, пакутлівыя»,* — пісаў Барыс Сачанка ў аповесці «Не на той вуліцы». — *«У слове ж не толькі сэнс, у ім і колер, і гук; слова жывапісуе, нясе думку і музыку; слова — расхaлоджвае і натхняе; яно — забаўка і зброя».*

Як бачыш, юны дружа, вышэйзгаданыя прыклады красамоўна сведчаць, як пісьменнікі шукаюць і нарэшце знаходзяць самае неабходнае, адзіна магчымае слова ці выраз для пэўнай маўленчай сітуацыі, на якія творчыя «пакуты слова» яны сябе асуджаюць.

Ці здольныя вы на такія «пакуты творчасці»?

***Вольга ПРАСКАЛОВІЧ***



***Дружа! «Практыкум» навучыць цябе пісаць толькі ў тым выпадку, калі ты будзеш выконваць хатнія заданні гэтай рубрыкі і дасылаць выкананае ў рэдакцыю. Гэтым разам напішы невялікую (на староначку) заметку на любую тэму, але так, каб па-сапраўднаму папакутаваць над падборам самых трапных слоў і іх парадкам у сказе. Парайся з настаўніцай, як гэта зрабіць лепш, — і дашлі нам вынік сваёй працы. Атрымаеш не толькі сваю публікацыю ў «Бярозцы», але і маленькі прыемны падарунак ад рэдакцыі.***

# Як перавыхаваць хулігана. Метад Кузьмы Чорнага

Упэўнена, што ў кожным класе ёсць задзірысты смяльчак, якому толькі слова скажы, толькі поглядам у яго кінь — і ўжо ляціць у цябе снежка, камяк гразі, ляжаць на падлозе твае падручнікі і сшыткі, вытрасеныя з партфельчыка, баліць, пячэ ўшчыкнутае месца… Шмат на што здольныя хуліганы, ніколі не ведаеш, дзе і з чаго нараджаюцца іх думкі і ўчынкі.

Герой аповесці Кузьмы Чорнага «Насцечка» — чатырнаццацігадовы хлопец Серж — такі вось хуліган. Прывык, што ўсе яго жаданні адразу выконваюцца, усе яго капрызы — закон для бацькоў, усё, што ён робіць, — правільна і бездакорна. Таму можна і дзяўчынак пужаць, і з дарослымі спрачацца, і настаўнікаў зневажаць. А як пакутуюць ад яго бацькі, каб вы ведалі! (Прачытаеце — даведаецеся). Складваецца ўражанне, што нават Кузьме Чорнаму, які гэтага хлопца ўласным вымыслам прыдумаў, ён зусім не падабаецца. Але не аднаго Сержа вінаваціць пісьменнік у тым, што адбываецца ў аповесці. Не сам жа Серж сябе такога выхаваў — бацькі распесцілі. Бо ўсё дазвалялі, абы не крычаў (ты не такі, дружа?).

Больш за што іншае Серж (мабыць, як любы хлопец) баіцца, што яго будуць зневажаць: казаць, што ён слабы і баязлівы, кпіць з яго. Ты, іншымі словамі, разумееш, што яму абавязкова неабходна стаць героем. Як? Увязвацца ў бойкі, помсціць «крыўдзіцелям», быць пагрозай для ўсёй школы. Ну, і прыязджаць на заняткі на бацькавай службовай машыне, як вялікі начальнік. А каб усе ведалі пра яго «геройствы», ходзіць за ім хвосцікам сябра-балбатун Мішка.

Насцечка мела неасцярожнасць зняважыць Сержа перад усім класам. Дакладней, гэта яму так падалося, калі ён няправільна рашыў прыклад на дошцы, а яна проста канстатавала гэты факт. Настаўніца потым пры ўсіх назвала яго хуліганам. Якая ганьба! І ён пачаў помсціць.

Дзед Насцечкі абараніў ад Сержа дзяўчынак, якіх ён чапляў. І тут не змог хлопец абысціся без дробнай, крыўднай, зневажаючай помсты. Хто мае права называць яго хуліганам, ганьбіць пры ўсіх, трэсці за каўнер ці піхаць у лужыну, калі ён — герой: моцны, бясстрашны!

Нельга пакінуць такога героя без перавыхавання. Можна і пакрыўдзіцца, і паскардзіцца каму-небудзь, і кару ці помсту яму прыдумаць. Але Кузьма Чорны прапануе іншыя падыходы. Трэба на прыкладах паказаць, дзе добрае, а дзе дрэннае, як можна і як нельга. Вось што Кузьма Чорны прыдумляе далей. Бацька Сержа распавядае сыну гісторыю сваёй маладосці і ўспамінае знаёмства з сапраўдным героем — смелым, сумленным, справядлівым. Можа, такім і хацеў быць Серж, ды толькі не ведаў, як? Хутчэй за ўсё! І вось уявіце сабе здзіўленне і сорам хлопца, калі ён раптам даведваецца, што помсціў за

Венесуэла ў перакладзе з іспанскай — «маленькая Венецыя». Іспанцы ўбачылі на возеры Маракайба дамы на пáлях, якія нагадалі ім Венецыю. Адсюль і назва.

свае абразы, дзіцячыя і смешныя, сапраўднаму герою! Дзед Насцечкі — герой! А хто ж тады ён, Серж?

Яго бацька і маці, як далей высвятляецца, таксама вялікія людзі, вартыя павагі і захаплення. Яны, дарэчы, потым «перавыхаваліся»: бацька паабяцаў знаходзіць вольны час, каб бавіць яго з сынам, а маці… Мо яна стане больш лагоднай?

У кожнага задзіры ёсць прычына такім быць — вось што даносіць аўтар сваім творам да ўважлівага чытача. Прыгледзьцеся да вашага хулігана: можа, яму проста не хапае звычайнага чалавечага цяпла? Можа, у яго штосьці не атрымліваецца, таму і настрой сапсаваны? А раптам ён не ведае іншага спосабу паказаць сваё сілу і смеласць?

***P.S.*** Абавязкова парайце прачытаць гэты твор сваім знаёмым дарослым! Для іх тут таксама знойдзецца шмат павучальнага. І цікавага!

***Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***

# Я напраўду люблю Янку Купалу. Так бывае!



*Мастачка Юлія УСАВА*

*Асабістае ўражанне*

Нешта з яго творчасці я вывучаю ў кожным класе (дарэчы, Пушкін такога гонару не ўдастоіўся — праграма 11-га класа пачынаецца Срэбраным векам). У малодшых класах я праглынаў яго вершы даволі раўнадушна, але…

У пятым класе ледзь не плакаў над паэмай «У Піліпаўку», хаця пасля прачытання паэмы Някрасава «Мороз красный нос» мог бы гэтага не рабіць. Ужо потым я прачытаў універсітэцкія падручнікі, з якіх даведаўся, што гэта быў ранні, вучнёўскі перыяд творчасці паэта.

У шостым класе прачытаў паэму «Курган». Нягледзячы на трагічны фінал, тут мне ўжо плакаць не хацелася. Уражанне было

даволі моцным і «паліфанічным» (гэта, дружа, калі нешта «гучыць» шматгалосна). Здаецца, гэта быў першы раз, калі мне ўдалося «ўсмаліць» мастацкі твор правільна, па-даросламу. І сёння я лічу гэту паэму лепшай у Купалы.

У сёмым класе я дабраўся да паэмы «Магіла льва». Тут мае ўражанні добра падпсавалі дзве акалічнасці: па-першае, сюжэт ужо быў мне вядомы па зборніку беларускіх легенд, а па-другое, якраз у гэты час у мяне з'явілася прадчуванне, што падручнікі могуць хлусіць. Праз гады перачытаў — так і ёсць! Хоць баярына ўжо не называюць класавым ворагам, а ўсяго толькі разбуральнікам шчасця Машэкі і Наталлі, але ў мяне няма адчування, што іх шчасце ён разбурыў. Машэкі — так. А Наталлі ён стварыў новае шчасце, і аўтар перакананы, што гэта другое шчасце Наталля мае права выбраць. Карацей, феміністкам паэма падабаецца таксама.

У праграму восьмага класа ўвайшла паэма «Бандароўна». Яна мне спадабалася, тут я нават выраніў слязу. Тады я і ведаць не мог, а пасля даведаўся, што паэма гэта яшчэ болей феміністычная. (Ты, дружа, яшчэ не паглядзеў гэта слоўка ў слоўніку? Фемінізм — гэта калі жанчыны змагаюцца за роўныя правы з мужчынамі ва ўсіх справах, часам бяздумна, бо сапраўдным мужчынам хочацца абараняць жанчын і ахоўваць іх ад многіх клопатаў). У арыгінале гэтай гісторыі — украінскай народнай паэме — Бандароўна хоць і прыгажуня, але бяспутная, што, уласна кажучы, яе і згубіла. Сама вінаватая.

У дзявятым класе мы праходзілі паэму «Безназоўнае». Уражанне засталося дзіўнае: я прачытаў і нічога не зразумеў. Прачытаў пазней — і прыйшоў да высновы, што гэта даволі сярэдні варыянт грамадзянскай лірыкі Купалы, хоць і напісаны не без уплыву традыцый сімвалізму (а гэта, дружа, калі казаць пра літаратуру, такі напрамак, які вымушае эксперыментаваць, каб абавязкова нешта недагаворваць, утойваць, апранаць у таямнічасць і загадкавасць, выкарыстоўваючы сімвалы і песімістычны настрой. Песімістычны? Зніжаны, у адрозненне ад аптымістычнага, які табе, напэўна, знаёмы болей).

Там жа надышла чарга бессмяротнай камедыі «Паўлінка». (Рыхтуем для цябе чытанку пра гэты твор, вельмі дасціпную). Як ні дзіўна, пры чытанні п'еса мяне зусім не зачапіла, а вось пастаноўка ў тэатры дапамагла ацаніць твор па-сапраўднаму і перачытаць. Традыцыя Купалаўскага тэатра кожны сезон пачынаць з «Паўлінкі» — абсалютна правільная.

Паэму «Яна і я» прачытаў не проста ў дзясятым класе, а ў раннім юначым узросце, і таму прыняў скептычна: ружовыя соплі. Затое драма «Раскіданае гняздо» ўразіла так моцна, што я сам напрасіўся на падрыхтоўку хатняга задання згодна з індывідуальным планам. Ды і некаторыя мае аднакласнікі, звычайна раўнадушныя да беларускай літаратуры, абмяркоўвалі твор нават на перапынках, у прыватных размовах…

***Фёдар ПАЛЯКОЎ***

Краіна Парагвай названа так ад ракі Парагвай, што на мове мясцовых азначае «вялікая рака». Дарэчы, назва Уругвай таксама паходзіць ад назвы ракі, што азначае проста «рака».

***У рубрыку «Бел. літ.» тэрмінова патрабуюцца самыя дасціпныя разборкі твораў школьнай праграмы ў выкананні настаўнікаў і вучняў.***



Фота Яўгена Пясецкага

# Быць у душы рамантыкам, або Пяць пытанняў да міністра

***На 17-й старонцы красавіцкага нумара часопіса «Бярозка» за 1977 год у рубрыцы «Верасок» надрукаваны два вершы вучаніцы 10-га класа Дрычынскай СШ Пухавіцкага раёна Лілі Яцэвіч. Публікацыю суправаджае ліст: «Яшчэ з чацвёртага класа я пішу вершы. Але дасылаць іх у друк не адважвалася. Летась адбыўся першы рэспубліканскі конкурс юных чытальнікаў. Мне пашчасціла ўдзельнічаць у ім…»***

У кароткім паведамленні школьніца зазначыла, што чытала на гэтым конкурсе верш пад назвай «Чаму ты Коласам назваўся», які напісала сама, прысвяціўшы Якубу Коласу. І што атрымала за гэта дыплом першай ступені Міністэрства асветы БССР. Сур'ёзная ўзнагарода! Яна, маўляў, і надала смеласці даслаць колькі вершаў у «Бярозку».

Мінулі гады…

Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Станіславаўна Ананіч, канешне ж, памятае тую сваю публікацыю.

**— Ці ўзгадаеце колькі радкоў?**

— Паспрабую. «Блакіт разліўся весні, // Пяе зямля пад сонцам. // Бягуць удаль дарогі, // Бягуць па ўсёй старонцы». Верш называўся «Светлыя дарогі», у ім выказвалася спадзяванне, што не збочу, не звярну з таго шляху, над якім «агніста свеціць заранка залатая», бо шляхоў наперадзе шмат, і ўсе розныя, але… «смела ўдаль імкнуся да будучыні светлай». Вось так марылася, з такімі думкамі і пачуццямі жылося нам, беларускім школьнікам мінулага стагоддзя, і трошкі іншай краіны, Савецкага Саюза, але мы, як і сённяшнія хлопчыкі і дзяўчынкі Рэспублікі Беларусь, уважліва і з цікавасцю чыталі ўжо і на той час легендарны часопіс «Бярозка». І друкавалі ў ім свае нясмелыя творы, выспеленыя ў бяссонні позняга вечара або трызненні золкага ранку. Усё тое добрае, што штурхае нас да творчасці, — кожная нават самая дробная дэталь, любыя эмоцыі і ўражанні, іншыя прычыны і падставы — рэчы на Зямлі вечныя. Спадзяюся, што і сучасныя аўтары «Бярозкі» будуць узгадваць свае першыя публікацыі з такім самым салодкім шчымленнем у сэрцах, бо не вымучвалі словы, упіхваючы ў радкі, абы сышліся рытмы і ўдалася рыфма, а пісалі таму, што не маглі іначай — настолькі іх нешта важнае перапоўніла, уразіла, натхніла.

**— А як складвалася ваша далейшае жыццё? Ці адчувалася ў ім уплывовасць менавіта тых першых творчых крокаў і здабыткаў?**

— Так, сапраўды адчувалася. І гэта даказвае, мільённы раз, неаспрэчнае: чалавек — творца свайго лёсу, гаспадар свайго жыцця. Пасля школы я паступіла ў БДУ, на факультэт журналістыкі. Вучыцца там было вельмі цікава: новае спасцігаецца праз маленькія і вялікія ўласныя адкрыцці таго, што іншымі даўно адкрыта. Новае — яно ж для некага забытае старое. І так прыемна на гэтым фоне ствараць нешта ўжо па-сапраўднаму новае, сваё, нікім яшчэ не чытанае, а значыць, не адкрытае. Па заканчэнні ўніверсітэта я пачала працаваць фотакарэспандэнтам у рэдакцыі раённай газеты — там гэтыя ісціны знайшлі новае пацвярджэнне і свежае практычнае прымяненне. Паступова набіралася вопыту, сталела, рыхтавалася да адказных спраў. У школе ты думаеш, што вучацца толькі школьнікі. На самай справе вучацца ўсе людзі, незалежна ад іх узросту, на працягу ўсяго жыцця. І тыя ўрокі, якія падносіць ім жыццё, больш складаныя, чым, скажам, фізіка або матэматыка. Але тым яны і цікавейшыя.

**— Любіце складанасці?**

— Як магчымасці сябе пераадольваць. Бо вы ж ведаеце, што самы моцны — гэта той, хто валодае не кімсьці або чымсьці, а сабою, хто ведае ўласныя магчымасці, бо неаднаразова апынаўся ў сітуацыі, калі патрабавалася прымаць рашэнне самастойна, і ўмее сябе прымушаць — рабіць тое, што трэба, а не займацца бязвольна толькі тым, чым хочацца. Трымаць дадзенае слова. Справіцца з тым, з чым, на думку іншых, ты нізавошта не справішся. Зрабіць выклік уласнай волі! Гэта ўсё перамогі над сабой, выпрабаванні, якія фарміруюць асобу... Я зайздрошчу чытачам «Бярозкі»: у іх наперадзе так шмат адкрыццяў! У тым ліку і адкрыццяў сябе.




*Публікацыя Лілі Яцэвіч*

**— У дзяцінстве вы захапіліся вершаскладаннем, але паэтам не сталі. Напэўна, чытачам будзе цікава даведацца, што і так бывае. Але яны зададуць пытанне: чаму?**

— Так, шмат хто піша вершы ў дзяцінстве і юнацтве, але паэтам пасля не становіцца. Гэта нармальна. Для мяне, калі пачала пісаць, адкрыўся новы свет, цікавы і змястоўны. Паступова ўсё ж прага вершаскладання прайшла: напэўна таму, што вабілі яшчэ і іншыя інтарэсы. А вось выпрацаваныя гэтым заняткам звычкі: глядзець на свет шырока раскрытымі вачыма, бачыць яго ў яркіх дэталях і вобразах, наталяцца імі — засталіся. Нават займаючыся сур'ёзнымі справамі, можна, а мо нават і патрэбна быць у душы рамантыкам. Вось гэта адчуванне прыходзіць менавіта праз заняткі творчасцю, у тым ліку і пісанне вершаў.

**— Чаго б вы пажадалі дэбютантам «Бярозкі», яе чытачам, а таксама стваральнікам?**

— Ніколі не расставацца з вераю ў тое, што наперадзе — цудоўнае жыццё, поўнае прыгод і дасягненняў. Дэбютантам і чытачам — далей пісаць для «Бярозкі», чытаць яе, не расставацца з выданнем, падтрымліваць сваімі лістамі і ўдзелам у конкурсах ды праектах, якія прапануюцца стваральнікамі. А стваральнікам — натхнення і нязгаснага жадання «трымаць марку», з павагай азірацца на папярэднікаў і рашуча крочыць наперад.

***Запісала Святлана ДЗЯНІСАВА***

# Жудасны дзівосны 8 «В»

*Журналісцкае расследаванне*



Практычна ў кожнай школе трапляюцца класы, якія выклікаюць у настаўнікаў лёгкае трымценне. Праблемы з вучобай, хатнімі заданнямі, паводзінамі. Празмерная рухавасць і шумлівасць. Уласныя крытэрыі і каштоўнасці. Свая філасофія.

— Трэба ж! У стандарты ніяк укладвацца не жадаюць, а давольныя сабой, быццам Нобелеўскую прэмію атрымалі, — разводзяць рукамі педагогі.

І ўсімі сіламі і сродкамі імкнуцца абысці «нобелеўскіх лаўрэатаў» бокам. А трэба ж некаму працаваць і з лаўрэатамі.

Разабрацца ў складанасцях жыцця адчайных «непаспяхоўцаў» з 8 «В» сярэдняй школы № 12 Гродна патрэбна мне, спецыяльнаму карэспандэнту «Бярозкі», які і з падлеткамі пагутарыў, і з класнай, Ірынай Эдуардаўнай Курачка.

Сярэдні бал у класе — 6,8. Не самы нізкі, увогуле, але… самы нізкі па паралелі!

— Затое мы першыя ў працоўных справах! — падае голас з апошняй парты сімпатычны мацачок. — Нас і па тэлеку паказвалі. І ў «Зялёнай сетцы» змяшчалі.

— Ды нас толькі пальцам памані, — заяўляе хлопец ля дошкі, — адразу прыйдзем на дапамогу. І лес пачысцім, і на канцэрце выступім. Вы толькі зірніце на нашых дзяўчынак — хоць зараз на сцэну!

— А што? — выступае наперад дзяўчынка з прыгожай усмешкай. — Можам і на сцэну. У нас палова спявае, танцуе і валодае музычнымі інструментамі. Даша — лепшая спявачка ў школе, Дзіяна — лепшая вядучая. Ілона добра грае на фартэпіяна, Оля — майстар на ўсе рукі.

— І не толькі дзяўчынкі! Міша — выдатна спявае і грае на скрыпцы. Зараз ён прадстаўляе школу на гарадскім конкурсе «Ведай нашых!». Мікіта захапляецца брэйк-дансам, запальвае на школьных дыскатэках і фестывалях.

— А класныя «агеньчыкі» ў нас атрымліваюцца па-сапраўднаму класнымі — самымі вясёлымі і цікавымі ў школе. Многія нам зайздросцяць.

Так, жыццё ў 8 «В» б’е ключом. А што скажа класны кіраўнік, якому дастаўся такі цуд. Здаецца, яна працуе з імі нядаўна.

— З верасня. Канешне, мяне папярэджвалі, — уздыхае Ірына Эдуардаўна. — Спачатку думала, што не спраўлюся: вымушаная змена настаўніка-кіраўніка наклала свой адбітак[1] на падлеткаў і іх стасункі. Першы дзень у школе мне даўся нялёгка. Неяк не склалася ў нас з першага погляду.

— Затое з другога ўсё атрымалася! — уклiньваецца ў размову хлопец з чубам. — Ірына Эдуардаўна ў нас — супер!

— Яраслаў, я табе колькі разоў нагадвала, што ўмешвацца ў размову неэтычна! — строгі голас настаўніка дрэнна спалучаецца з усмешкай. — Хвалюецца, — тлумачыць класная, — за клас перажывае.

— І за вас! — Яраслаў пасылае ў бок настаўніцы паветраны пацалунак і знікае за спінамі аднакласнікаў.

— Гумарыст, — рэзюмуе класная. — Трэба будзе прасунуць яго ў КВЗ, здольны хлопчык. Ды і астатнія таксама. Талентаў — хоць адбаўляй. Мабыць, вярнуся ў пачатак размовы. Як ні дзіўна, але мы знайшлі агульную мову. Першая класная гадзіна прайшла «на ўра»[2]. Мой жыццёвы досвед і погляды на жыццё выклікалі ў вучняў цікавасць. Іх меркаванні — сімпатыю ў мяне. Пазней дзяўчынкі зрабіліся маёй апорай у шмат якіх справах. З хлопчыкамі атрымалася не адразу. Настаўнікі скардзіліся: ігнаруюць, не прыходзяць, не вучаць, не слухаюцца… Даводзілася спрачацца, пераконваць, даказваць. Дапамагло імкненне да лідарства. «Паспрачаемся», што 8 «Б» пераможа вас у зборы макулатуры? — закінула я ў зручны момант сваю вуду. «Гэта як?» — зацікавілася мацнейшая палова класа. «Вельмі проста: перамогуць яны — і вы будзеце вымушаны атрымаць дзесяць "васьмёрак", кожны, а калі пераможаце вы…». — «Вы нам ставіце па дзесяць "васьмёрак"!» — запляскаў у ладкі Лёша. «Яшчэ чаго! — я трымала абарону. — Па адной! Пры ўмове, што засвоіце пераказ і выканаеце пісьмовае заданне». — «Слова?» — хор хлапчуковых галасоў перакрыў званок на ўрок. «Слова!»

Макулатуры хлопцы з 8-га «В» сабралі больш чым хто ў школе. І пераказ здалі без праблем. Відаць, сярэдні бал у трэцяй чвэрці ў іх узнімецца.

— А ўвогуле, малайцы, — працягвае класная. — Я б асабліва вылучыла іх галоўную якасць: у любой сітуацыі заставацца людзьмі. Спачуваць. Падтрымліваць адно аднаго.

— Ці не занадта ідэальная карцінка? — звяртаюся я да вучняў.

— Нармальна! — аўтарытэтна заяўляе той самы Яраслаў. — У нас і суполка свая «Вконтакте» ёсць. І пяць дыпломаў за перамогі. І галоўны прыз сезона — дыскатэка ў маладзёжным цэнтры «Гродна».

— І тры адкрытыя ўрокі за чвэрць! — нясецца з «камчаткі»[3].

— Канешне, не ўсё так гладка, — выступае наперад бландынка. — Можам на ўроку раптам зарагатаць усе адначасова, можам кантрольную «заваліць», у сталоўцы вэрхал узняць… Затое выбачацца ўмеем і лепш чым хто вітаемся.

— І шчыра лічым, што школа — самы цудоўны ў жыцці чалавека час, — дадае нясмелае дзяўчо з цяжкай касой на кволым плечыку. — А вучоба… Не ўсім жа быць прафесарамі…

— Каця жартуе, — вылучаецца з натоўпу сур'ёзны малады чалавек, — ёй якраз і «свеціць» стаць прафесарам.

Вучоба — гэта, безумоўна, важна. Хочацца заўважыць, што з узростам мы пачынаем гэта разумець. І хто ведае, мо і сярод нас апынецца вялікі навукоўца ці выбітны грамадскі дзеяч. Тут галоўнае — своечасова захацець. Мяркую, пры падтрымцы Ірыны Эдуардаўны ў нашых герояў гэта атрымаецца.

— Як, сябры, зможам?

— Зможам!

Чарговы званок на ўрок пазваў навучэнцаў у кабінет фізікі.

***Улад БЯРОЗКІН***




Подпіс рэдактара

______________

***Наклала свой адбітак[1] — тое, што ў журналістыцы называецца «штампам». Многія так пішуць, і менавіта па гэтай прычыне трэба было б знайсці на гэта месца які-небудзь больш арыгінальны выраз. Пашукаеш? Тады тэлефануй або пішы ў рэдакцыю — і атрымаеш прыз!***

***Прайшла «на ўра»[2] — таксама штамп. Настаўніца наўмысна іх тут ужывае, каб ты звярнуў на іх увагу. Пашукаеш эквівалент? Умовы тыя ж!***

***«Камчатка»[3] — так называецца апошняя парта. Яшчэ адна назва — «галёрка». Ты ведаў? Малайчынка!***

У рубрыку чакаем:
- рэпартаж з урока
- інтэрв'ю з дырэктарам школы
- журналісцкія расследванні на самыя дасціпныя тэмы



# Мінулае — наша будучыня

*Артыкул-экскурсія (ад імя Якуба Коласа)*

*Стаіць мая хата між хвой кучаравых,*
*І купіна жыта на клумбе пры ёй.*
*Свая ў мяне пожня, і дрэўцы, і травы,*
*Пляцоўка, і двор свой і я сабе свой.*

Добры дзень, Госць!

Ты наведаў гэты музей, хутчэй за ўсё, для таго, каб даведацца пра маё жыццё. Што ж, калі табе цікава, мы пройдземся па пакоях, каб згадваць трывожнае і радаснае, балючае і светлае. З кожным госцем я вяртаюся туды, перажываю ўсё спачатку. Ты толькі слухай экскурсавода і не кажы яму, што я таксама тут, — няхай гэта будзе нашым з табою сакрэтам.

Праходзь, Госць! Вось грыфельная дошка, а ты, як і папярэдні наведвальнік, не ведаеш, што гэта такое. Не робяць цяпер такія. Вось кніжка Івана Крылова. Ці чытаеце ў школе яго байкі? Глядзі, якая моцная двухстволка! Сыну Юрыю купіў. А вось нямецкі фотаапарат — для Міхася, бо ён любіў назіраць за людзьмі. А пойдзем, Госць, у адно з маіх любімых месцаў — у кабінет. Ды ты не бойся, кроч па лесвіцы смела, яна правераная.

Ведаеш, жыццё маё было складаным, аднак не падумай, не скарджуся. Сядзеў я ў турме. Пра гэта ў школе не расказвалі? Праседзеў за кратамі тры гады. «За што?» — пытаешся ты. Мяне абвінавацілі ў скліканні настаўніцкага з'езда, тады такія рэчы забараняліся. Калі вызваліўся, стаў выкладчыкам у прыходскім вучылішчы горада Пінска. Тут сустрэў Яе — маладую настаўніцу чыгуначнай школы. З чэрвеня 1913 года Марыя Дзмітрыеўна Каменская стала маёй жонкай.

Вось мы падышлі да майго кабінета. Пра што ты пытаешся, Госць? Не, на гэтай машынцы я не друкаваў свае вершы, бо пісаў пяром, карыстаючыся чарніламі. А ведаеш, менавіта за гэтым сталом я і памёр. За ім жа пісаў свае творы, а таксама паштоўкі — Броўку, Крапіве, Лынькову. Эх, як нядаўна і даўно гэта было!

Музей адкрыў мой сын Даніла. Ён не хацеў, каб людзі забыліся пра мяне, а я сядзеў за гэтым вось сталом і хацеў сказаць яму: «Сынку! Пакуль жывыя беларусы — жывая і мая праца, жывы і я!»

4-га снежня 1957 года мой дом — вось гэты музей — адчыніў свае дзверы для кожнага. Я з усмешкай чакаў наведвальнікаў на яго ганку. Разам з першымі гасцямі прайшоўся па пакоях, але расказваць мне нічога не трэба было: за мяне гэта рабіў экскурсавод.

Давай пройдзем, Госць мой, у сад. Я кожны дзень туды хадзіў раніцай, а шостай, даглядаць кветкі. Тут розныя гатункі нарцысаў і цюльпанаў. А вось мой гонар: чатыры дубы. Сам садзіў. Прысвячэнне тром сынам — тыя тры, а гэты — мой. Тут яшчэ бярозка расла, у гонар жонкі маёй, ды засохла нядаўна. Спадзяюся, Госць, я табе не надакучыў. Ты заходзь часцей, я люблю сустракаць сяброў.

**Яна КАШЭЎСКАЯ,**
**11 клас, СШ № 209, Мінск**




Подпіс рэдактара

# «Танкі» без камп'ютараў? Магчыма!



Мастачка Алеся Галота

Уяві сабе, што школьнікі пачалі гуляць у танкі задоўга да таго, як з'явілася вядомая камп'ютарная гульня. Для версіі, якой карысталіся нашы бацькі, не патрэбен камп'ютар, а ўсяго толькі аркуш паперы, дзве асадкі або два алоўкі і сусед па парце. Складзі паперу напалам. Лінія згібу будзе мяжой паміж вашымі танкамі. Кожны малюе па 10 танкаў на сваёй палове. Калі войскі расстаўлены па пазіцыях, можна пачынаць бой. Цяпер па чарзе малюйце стрэл на сваёй частцы «поля бою», складайце аркуш напалову і на прасвет на палове «ворага» адзначайце месца, куды трапіў снарад. Калі твой снарад толькі закрануў танк суседа, ты маеш права на другі стрэл. Кожны паспяхова выпушчаны снарад дае права стрэліць яшчэ раз. Калі вы станеце майстрамі гэтай гульні, можна будзе рабіць яе больш складанай: напрыклад, забараніць другі стрэл, калі танк толькі крыху падбіты.

***А як вы бавіце час на доўгіх перапынках у школе? Распавядайце нам пра свае гульні і забаўкі! Таго, хто нам напіша, чакае падарунак!***

***Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***



Мастачка Алеся Галота

***Вам бацькі ніколі не дазвалялі бегаць па лужынах і шпурляцца пяском? Маляваць на шпалерах таксама забаранялася? Мільён па-сапраўднаму цікавых і вартых спраў бацькі такімі не лічаць. А самі?!***

# На санях і за санямі

— Калгасная стайня ў нашай вёсцы стаяла на пагорку. Ды нават не на пагорку, а на добрай гары. Зімою туды часцяком прыходзілі хлопцы. Праўда, конюхі забаўку не ўхвалялі, але яны не заўсёды на месцы былі. То мы збяромся ды цішком у разведку:

«Конюх ёсць?»

«Няма».

Ведама, дзе коні, там і вазы, і сані стаяць. Ну, вазы нам зімою без патрэбы, а вось ад саней мы адчаплялі аглоблі, падцягвалі да краю і сігалі ўніз з гары да самай сажалкі. Хто паспеў заскочыць, той на санях, а хто заду, той ці бег, ці на жываце цягнуўся. І добра, калі б толькі адны сані так уніз спускалі. Назад, пад горку, іх цягнуць нам было цяжка, дык дзятва на стайні яшчэ адны брала і зноў з'язджала такім жа чынам. Пакуль усе сані ўніз не спусцім — не супакоімся. Ці пакуль конюх не з'явіцца. Вось ён тады лаяўся! Мы ўцякалі, бо калі каторага ён лавіў, то і пугай мог пачаставаць свавольніка.

***Успамінамі дзяліўся Мікалай ЮРГЕЛЬ***
***Запісала Рагнеда ЮРГЕЛЬ***



# Сябры па карысці

Са школы Лена вярталася сумная. Ісці давялося адной праз усю вёску, шэрую і сумную без снегу. Сяброўка Даша сёння пакінула яе, пайшла на гарбату да другой аднакласніцы, Аліны.

У сёмым класе сялянскай школы вучацца толькі чатыры дзяўчынкі, дзве з якіх — Лена і Аліна — змагаюцца за сяброўства трэцяй — Дашы, а чацвёртая — заўсёды хварэе, за шэсць гадоў вучобы ў школе так і не знайшла сяброўкі.

У спаборніцтве за ўвагу сёння пашанцавала Аліне. А Лена пакрыўдзілася. Ішла і шаптала ціхенька, але злосна: «Вось не буду цябе болей цукеркамі частаваць! І матэматыку сама рашай, і сачыненні сама пішы! Ці няхай табе Аліначка піша, пагляджу я, што вы ўдваіх напішаце!»

Лена нават на сваю старонку «Вконтакте» не заходзіла. Ведала: там Даша і Аліна, якія абавязкова папросяць спісаць хатняе па матэматыцы. Ці распавесці, пра што вялізная аповесць, зададзеная на заўтра па белліце. Яны, відавочна, кнігу нават у вочы не бачылі. Затое высветлілася, што калі табе ніхто не замінае, можна паспець не толькі зрабіць усе заданні на заўтра, але і дачытаць кнігу, на якую даўно не хапала часу, і нават пачаць вышываць вялікую карціну, якая раней заўсёды адкладвалася.

Застаецца нявырашаным адно пытанне: чым заняцца на школьных перапынках, якія робяцца такімі доўгімі, калі ні з кім не размаўляць, не гуляць у крыжыкі-нулікі, не пераказваць нікому змест твора па літаратуры. Але што гэта за праблема?! На перапынках Лена пачала рабіць урокі на наступны дзень, вызваляла сабе больш часу для чытання, вышывання і дапамогі маме ў хатніх справах.

Дашу вельмі здзівіла, што Лена не шукае сяброўства з ёй, таму ўвесь час праводзіла з Алінай і нават не паказвала, што яе штосьці хвалюе. Да апошняга часу.

Атрымаўшы некалькі «двоек» і, напэўна, наганяй ад бацькоў, яна ўсё ж такі падышла да Лены на адным перапынку і папрасіла растлумачыць ёй, як рашыць задачку па геаметрыі. Так дзяўчаты сказалі адна адной першыя за тыдзень словы.

Назаўтра Аліна захварэла, таму Даша ўсе заняткі сядзела з Ленай. Знешне Лена адрэагавала на гэта абыякава (помста ёсць помста!), але ў душы радавалася, што больш не трэба сядзець адной і марнаваць каштоўныя хвіліны перапынку на ўрокі, а можна паразмаўляць с суседкай пра розныя справы.

Калі пасля заняткаў Лена і Даша ішлі дадому, Даша прапанавала: «Давай зноў сябраваць».

Лена прамаўчала.

Бо не ведала, што адказаць.

***Каментарыі***

***Старэйшая сястра (рэдактар «Бярозкі» Кацярына Захарэвіч):***

— Сястрычка! Сябры, якія табой карыстаюцца, — не сябры. Лепей сапраўды рабіць на перапынках «дамашку», а дома ўвечары чытаць кнігі, чым трываць такое. Калі без сяброўак табе будзе зусім сумна, размаўляй з Дашай і Алінай, але не дазваляй ім сесці табе на галаву. Хто такая, дарэчы, гэта Даша, што вы з Алінай так змагаецеся за яе ўвагу? Я ўпэўнена, ты можаш стаць не горшай «зоркай» класа. Сябруй з хлопчыкамі: яны, калі што, і ўвечары праводзяць, і заплечнік паднясуць.

***Добразычлівая прыгажуня (Ліза Верабей, вучаніца 9-га класа):***

— Я не раз была ў такіх сітуацыях, таму скажу табе наступнае: добра падумай, ці сяброўка табе гэтая Даша? У большасці выпадкаў «сяброўкі» проста карыстаюцца выгодамі ад стасункаў. Ёсць, канешне, шанец, што яна не разумее як выглядае сітуацыя. Я лічу, што ў любым выпадку трэба пагутарыць з ёй пра гэта. Калі вы не дамовіцеся, трэба скончыць такія стасункі, нягледзячы на тое, што гэта твая адзіная сяброўка. Дарэчы, ніхто не адмяняў сацыяльныя сеткі ў інтэрнэце, дзе можна знайсці сяброў з агульнымі цікавасцямі і тэмамі для размоў. Галоўнае — не саромецца і не баяцца.

***Прасунуты старшакаснік (Уладзіслаў Труханаў, вучань 10-га класа):***

— Кідай сваю сяброўку, нічога добрага з гэтага ўсё роўна не атрымаецца. Можаш нават прыгадаць ёй усе крыўды, што яна табе зрабіла. Прыглядзься да іншых людзей, якія навокал, можа, сярод іх ты нечакана знойдзеш новых сяброў?

***Псіхолаг (Кацярына Шанько)***

— Калі ты задумалася і не адказала сваёй сяброўцы адразу, гэта ўжо знак, што табе трэба штосьці мяняць. Уяві, што будзе, калі твая сяброўка з'едзе кудынебудзь на доўгі час і ў вас не будзе магчымасці з ёй бачыцца? Калі малюнак, які ты атрымала ад свайго ўяўлення, табе падабаецца больш, чым тое, што адбываецца зараз, то што замінае табе ўвасобіць уяўленае? Калі ты лічыш, што без сяброўкі табе будзе сумна, то, можа, і цяпер у вас усё не так дрэнна?

***А што ты, дружа, параіш? Можа, ты сам трапляў у падобную сітуацыю? Падзяліся досведам.***

# Пад адным дахам



***У кожнага з нас свая сям'я, асяроддзе, свет. І зусім розныя ўзаемаадносіны з ім. Камусьці добра там, дзе ён ёсць. Камусьці — не. І прычын для гэтага «не» столькі ж, колькі ў свеце саміх «не».***

Таму казаць, што з гэтым рабіць, я не буду, але магу паспрабаваць дапамагчы разабрацца са складанай сітуацыяй і з тым, што табе, магчыма, можа спатрэбіцца.

## ЯК ВЫБРАЦЦА З ПЯЛЮШАК?

Ты жывеш з бацькамі, якія, з'яўляючыся самымі роднымі людзьмі, часам ператвараюцца ў такіх невыносных камандзіраў… Лічаць, што ты яшчэ маленькі. Або кажуць: «Жыцця не бачыў». І заўсёды нешта патрабуюць. Ці не так?

На самай справе для бацькоў твой сённяшні ўзрост — таксама вельмі нязвыклы і новы стан. Ты ўжо дарослы, так? Значыць, і патрабаванні да цябе таксама дарослыя, і твая адказнасць за ўласныя дзеянні — адпаведная. Яны гэта разумеюць. Але ім так не хочацца адпускаць ад сябе таго, каго яны песцілі з пялюшак, мілае дзіцятка, якое на іх вачах і пры іх падтрымцы рабіла першыя крокі, поспехі. Вось і пераключаюцца яны ўвесь час то на тое, што ты маленькі і нічога не ведаеш, то на тое, што ты дарослы і павінен сам усё вырашаць і рабіць. Як на

арэлях гойдаюцца. Як ім перастаць гойдацца? Што рабіць табе?

Ты ж дарослы, памятаеш? Таму я не буду табе нічога дыктаваць. Але, магчыма, я параю табе нешта такое, што прывядзе цябе да правільнага рашэння.

Ведаеш, даволі часта карані нашых праблем ляжаць у той акалічнасці, што мы больш давяраем пачуццям, чым розуму. А потым, калі эмоцыі сціхаюць, нам робіцца сорамна.

## НІХТО НЕ ЖАДАЕ ДРЭННАГА

Даволі часта бацькі цябе нечаму вучаць, так? Але звярні ўвагу: яны не кажуць табе, напрыклад: «Не слухай Металіку, слухай Рыанну». Ці: «Сёлета ў модзе чырвоны, чаму ў цябе рудыя боты?». Бацькі не хочуць мяняць цябе як асобу і браць пад свой кантроль цалкам. Часцей яны раяць табе цяплей апранацца, прыбраць у пакоі, выканаць хатнія заданні — тое, што ніяк не залежыць ад твайго густу і характару. Проста гэтага патрабуе само жыццё. Пагадзіся, агульныя жыццёвыя правілы твае бацькі за свае гады вывучылі дасканала. Да таго ж, якую заўгодна з гэтых умоў можна ператварыць у нешта па-сапраўднаму цікавае і вартае выканання. Можна набыць та-а-акое цёплае паліто, каб у любое надвор'е было прыемна апранаць яго і адчуваць сябе выдатна (а не пухлым тэлепузікам). Да ўрокаў можна рыхтавацца пад любімую музыку. А з пераліку магчымых хатніх абавязкаў выбраць тое, што найменш непрыемна выконваць.

Калі ты разумееш, што гнеў бацькоў не ўтаймаваць ніякім чынам, можаш паспрабаваць, як кажуць псіхолагі, «разарваць шаблон»: зрабіць нешта нечаканае, што прымусіць іх… усміхнуцца. Калі ў разгар бацькоўскага крыку ты адкажаш спакойна, гэта прымусіць іх прыслухацца, бо яны рыхталіся да размовы на павышаным тоне, а ты прыцягнуў увагу. Калі проста сказаць, напрыклад: «Мама, ты такая клапатлівая (уважлівая, добрая), я цябе люблю», то можна нават прымусіць бацькоў праслязіцца.

## АМАЛЬ ЗАМЕЖНАЯ МОВА

Бацькі і дзеці часта размаўляюць на розных мовах: дзеці дарослага светапогляду яшчэ не ведаюць, а дарослыя дзіцячага ўжо не памятаюць. Чаму б вам не паспрабаваць памяняцца месцамі? Правесці такую аналітычную «гульню», якую праводзяць прафесійныя псіхолагі, у вас, можа, і не атрымаецца, але аднавіць у памяці мамы яе дзяцінства — справа вельмі простая. Вось будзе яна ў добрым настроі, а ты вазьмі ды запытайся ў яе, якой яна была ў тваім узросце. Напэўна, яна распавядзе нешта цікавае. І калі яна таксама вярталася дадому позна, прыводзіла з сабой сяброў — і ўсё было добра, то яна, далібог, прызнаўшыся ў гэтым, можа, дазволіць і табе рабіць тое самае.

Як самому навучыцца разумець дарослых? Калі ў цябе ёсць малодшы брат або сястра, зрабіць гэта проста. Ну вось скажы, ці адпусціў бы ты сястру або брата гуляць позна ўвечары? Даверыў бы яму грошы? І не мае значэння тое, што «карапуз» малодшы за цябе ўсяго толькі на два гады: ён заўсёды будзе здавацца табе дзіцём. Вось так і ты для сваіх бацькоў: заўсёды будзеш маленькім. Ёсць рэчы, з якімі трэба змірыцца. Тым больш, што пакора заўсёды суправаджаецца бонусамі лёсу. Проста ведай гэта.

І яшчэ. Калі канфлікты з бацькамі здараюцца даволі часта і ў самых непрадказальных сітуацыях, то вось табе наступнае заданне: паспрабуй вылучыць асаблівыя прыкметы тых сітуацый, калі ты для бацькоў — любімае сонейка, а калі… мякка кажучы, не сонейка. Калі ў цябе гэта атрымаецца (а я ўпэўнена ў гэтым), то ты зможаш трымаць сітуацыю пад кантролем. І прыйдзе да цябе пакрысе тая свабода, пра якую ты марыш! Таму што з'явіцца адзін з самых важных складнікаў адносін у сям'і — давер.

***Кацярына ШАНЬКО,***
***выпускніца факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ***

Легенды



*Конкурс!*

***Дружа! У папярэднім нумары, як ты памятаеш, мы пачалі конкурс рэгіянальных легенд і паданняў. Але легенды, якія даслалі нам у гэты нумар, прыдуманы самімі вучнямі. Ды так гожа, што ўмовы конкурсу з такой нагоды можна і пашырыць. Згодзен? Дашлі нам прыдуманую табой легенду, бо, хто ведае, мо яна з цягам часу трывала замацуецца за тваім населеным пунктам і зробіцца народнай.***



## АДКУЛЬ ПАЙШЛО ПРОЗВІШЧА КАХАНОЎСКІЯ

Жыў-быў пан. Быў ён вельмі скупы. І была ў яго мара: ажаніцца з самай прыгожай дзяўчынай на свеце.

Аднойчы паехаў пан у адну са сваіх вёсак. Едзе, прыглядаецца. Бачыць, ідзе па вуліцы дзяўчына прыгожая. Прыпыніўся пан і загадаў:

— Падыдзі да мяне! Ты будзеш маёй жонкай!

— Не! — адказала дзяўчына.

— Як гэта не? Я ж багаты! І прыгожы! Дзе ты лепшага знойдзеш?

— А ты ж, пан, скупы. Сам сабе шкадуеш. А дабро тваё хутка пагніе.

Раззлаваўся пан, раскрычаўся, але за маладзіцу заступіўся вясковы хлопец:

— Мая гэта каханая! А пану трэба выбіраць жонку сярод паненак!

Яшчэ больш разгневаўся пан. Паехаў дадому. Думаў, думаў і прыдумаў, як забраць тую дзяўчыну ў свой маёнтак.

На другі дзень загадаў пан сваім служкам прыцягнуць дзяўчыну сілай да яго ў двор.

— А калі хто будзе за яе заступацца, то сячыце яго плёткай, — загадаў пан.

Выканалі служкі загад. Прывезлі дзяўчыну ў панскі маёнтак.

Пан ёй і золата, і срэбра, і ўборы шаўковыя, і футра… А дзяўчына глядзець не хоча на панавы скарбы. Дзівіцца той:

— Сабе адмаўляю. Іншых трымаў строга. А на цябе столькі дабра перавёў. І табе не падабаецца?

— Даведаецца мой Іванка, што я тут, — і выратуе мяне. А твой скарб — дымам пойдзе.

Цёмнай ноччу, калі ўсе спалі, запылаў панскі маёнтак. Збегліся людзі, але ратаваць хоць што ў ім было ўжо позна. Бегае пан вакол папялішча, лямантуе, па шаўковых сукенках плача, а пра дзяўчыну і не ўспамінае.

А дзяўчыне, якую Аленай звалі, збегчы Іванка дапамог. Не спужаўся ні полымя, ні гневу панскага. Бо кахаў дзяўчыну сваю. А каханне ўмее рабіць цуды.

Ажаніліся Іванка з Аленай. Жылі яны доўга і былі шчаслівыя. А прозвішча ім людзі далі — Кахалоўскія.

***Максім ХАЦЯНОВІЧ,***
***9 клас, СШ № 9, Маладзечна***



## АБ НАЗВЕ ВЁСКІ ПАЖАРЫШЧА

Даўным-даўно ў адной вёсцы жылі два браты: гультай Фядот і працаўнік Васіль. Васіль кожны дзень чысціў печ, паліў яе, прыбіраў у хаце і ў двары, у полі працаваў. А Фядот цэлымі днямі ляжаў на печцы.

Аднойчы Фядот вырашыў паказаць, што і ён не гультай.



Спачатку паспрабаваў прыбраць у двары, але ўсё валілася ў яго з рук. Калі з поля вярнуўся Васіль, то ўбачыў, што граблі зламаныя, а галлё з мятлы па ўсёй вуліцы раскідана. Уздыхнуў Васіль, адрамантаваў граблі, прыбраў двор. А брату нічога не сказаў.

На наступны дзень Фядот паспрабаваў прыбраць у хаце. Але зноў нічога ў яго не атрымалася. Посуд разбіў, ручнікі разадраў. Вярнуўся Васіль з працы — Фядот зноў на печцы, а ў хаце такі гвалт!

Папярэдзіў Васіль брата, каб той не чапаў больш нічога. А сам пайшоў кароў пасвіць. Але зноў вырашыў Фядот брату дапамагчы — печку пачысціць. Ды толькі ў сажы ўвесь выкачаўся, усю падлогу запэцкаў, а печку так і не пачысціў.

Калі ўвайшоў Васіль, то спалохаўся чорта, які на печцы ляжаў.

Доўга Васіль сварыўся на Фядота, тлумачыў, што трэба спачатку ўсяму вучыцца. Але Фядот і вухам не павёў.

Пайшоў аднойчы зімой Васіль па дровы ў лес. Фядоту холадна стала ляжаць на печы, і ён вырашыў сам прапаліць у печы. Але, як кажуць, у няўмечкі не баляць ні рукі, ні плечкі. Таму і пачаўся пажар.

Пакуль вярнуўся Васіль, палова вёскі выгарэла.

Тады тое месца і назвалі Пажарышча.

А Фядота Васіль пасля гэтага амаль сілком навучыў будаваць хаты. Каб той мог памылку сваю выправіць. Вёска аднавілася, але, каб людзі памяталі, да чаго лянота давесці можа, назву мяняць не сталі. Так і засталося Пажарышча.

***Дзіяна ДАРАХОВІЧ,***
***9 клас, СШ № 9, Маладзечна***

## ЧАМУ БАБРУЙСК?

Жыў-быў князь, у князя быў сын, якога ён вельмі любіў.

Паехаў аднойчы сын на паляванне ды прапаў. Вельмі доўга князь з дружыннікамі шукаў маладога князя, ужо ледзьве на нагах усе трымаліся. Даехалі да ракі…

Аж бачаць, сядзіць на беразе малады княжыч, жывы ды здаровы, толькі мокры ўвесь.

— Сыночак мой родненькі! — закрычаў князь. — І дзе ж ты прападаў?

— Слухай, бацька, што здарылася са мной! Ішоў я сцежкай, аж выскачыў перада мной вялізны мядзведзь. Схапіў я лук ды стрэліць не паспеў. Тады я да рэчкі, мядзведзь за мной! Я ў раку! Невядома, колькі я быў пад вадою, але мяне выратавалі добрыя звяркі — бабры! Яны мяне амаль непрытомнага выцягнулі з глыбокай плыні.

— Дзякуй вам за сына! — звярнуўся князь да ракі і яе жыхароў. — А раз ты, сын, тут жывым застаўся, то і свой стольны град тут будуй! — сказаў князь.

Так і пайшла назва Бабруйск — у гонар баброў-выратавальнікаў.

***Кацярына КАРПОВІЧ,***
***9 клас, СШ № 9, Маладзечна***

## АБ ПАХОДЖАННІ НАЗВЫ МАЛАДЗЕЧНА



Раскажу вам адзін выпадак, пасля якога ўзнікла назва Маладзечна. Было так ці не было… але ж магло і так быць!

Пасяліліся неяк людзі на ўскрайку лесу. Збудавалі паселішча, а вось назву гэтаму паселішчу ўсё ніяк прыдумаць не маглі. Кожны вечар збіраліся яны і вырашалі.

Адзін кажа:

— Давайце назавём яго Рачное, бо побач з ракой жывём. Рака шырокая, прыгожая.

А другі:

— Не! Лепш давайце Лясным назавём, бо блізка лес!

Трэці прапанаваў назваць паселішча Каменным, бо было вакол шмат камянёў.

І тут адзін вельмі стары і мудры чалавек сказаў:

— А ці заўважылі вы, людзі, як шмат сярод нас моладзі? Дык давайце назавём наша паселішча Маладзечнам у іх гонар. Ім жа род наш працягваць.

І ўсім такая назва спадабалася.

*Елізавета ШЫБУТ,*
*9 клас, СШ № 9, Маладзечна*

## ПРА ВЁСКУ ЗАГОР'Е



Калісьці ля нашага Маладзечна была вялікая гара. І ўвесь час хацелася людзям зазірнуць за гэтую гару. Паглядзець, што там, за ёй, робіцца.

Аднойчы вырашылі людзі залезці на гару. А каб нікому крыўдна не было, пайшлі ўсе. Добра падрыхтаваліся, доўга ішлі… Вось і вяршыня.

Стаяць. Азіраюцца. Дзіву даюцца: з другога боку гары такія ж лясы, палі… такія ж людзі жывуць у такім жа паселішчы.

І сталі маладзечанцы называць тое паселішча Загор'ем. А загорцам такая назва спадабалася, бо да гэтага часу аніякай не было ў іх.

*Аліна ПШЭННІК,*
*9 клас, СШ № 9, Маладзечна*



## МАЛАДАЧАНКА

Жылі калісьці людзі ў лясах. А ў адным вялікім лесе каля старога дуба ляжаў вялізны камень-валун. Усе жыхары гэтага лесу збіраліся каля яго на вялікую раду.

Аднойчы, сабраўшыся, заўважылі яны, што на валуне з'явілася невялікая расколіна, а з яе цячэ маленькі ручаёк. Здзівіліся людзі з такога цуду.

Праз некалькі дзён ручаёк ператварыўся ў рачулку. Забулькатала вадзіца, заспявала сваю прыгожую мелодыю. Заўважылі праз некаторы час лясныя людзі, як змяняцца пачаў іх лес. Памаладзеў, папрыгажэў. Травы зялёнай шмат з'явілася. Нават на старых дрэвах зашумела зялёная лістота.

Паспрабавалі людзі ваду з ракі — і адчулі, што сталі мацнейшымі, памаладзелі. Слава пра раку пайшла: быццам яна маладосць дае. Таму пачалі людзі паміж сабой рачулку Маладачанкай зваць, на яе берагах сяліцца.

А ў хуткім часе пабудавалі тут першае паселішча. Так з'явілася Маладзечна.

*Настасся МАРЗАК,*
*9 клас, СШ № 9, Маладзечна*

# Дзённік настаўніка


Яўген Мартыновіч, СШ № 209, г. Мінска

## ВАЙНА

У дзяцінстве я марыў прыгожа памерці. Лепшым сродкам для гэтага была «вайнушка», у якую мы з сябрамі гулялі амаль кожны дзень. Баявыя дзеянні разварочваліся па ўсёй тэрыторыі нашага двара. Арэлі, платы, каруселі ператвараліся ў нашу абарону і перашкоду для нашых «ворагаў». Вось я, пералазячы праз плот, атрымліваю «запаветную» кулю і прыгожа павісаю на ім. Да канца гульні ўсе хлопцы забіты! Мамы перапалоханыя нашымі гульнямі, выбягаюць на вуліцу і з жахлівымі крыкамі гоняць нас дадому. Мы ўстаём (уваскрасаем) і бяжым да матуль, дамаўляючыся пра наступны дзень. Зноў працягнем «баявыя дзеянні».

## КНІГІ

Люблю назіраць за тымі, хто чытае! Людзі ўсміхаюцца старонкам ці, наадварот, так засяроджваюцца, быццам вырашаецца лёс не героя, а чытача!

У метро планшэты і электронныя кнігі людзі дастаюць з асаблівым гонарам. Маўляў, паглядзіце, які я прасунуты. Папяровыя кнігі больш чытаюць на свежым паветры ў парках. І гэта так прыгожа...

## ГУЛЬНІ

Гляджу, як хлопчык гуляе з цацачным пісталетам: цэліць у людзей, птушак, котак, страляе-страляе-страляе, «Бух-бух-бух». І таго «забіў», і таго, і тую, і сабаку, і вунь таго вялікага дзядзьку! А бацька падыходзіць да сына і ласкава патрэпвае яго валасы, быццам кажучы: «Малайчына». Адразу бачна, што расце сапраўдны мужчына.

## НАРЫХТОЎКІ

Занатаваў летнія сонечныя промні, водар сасновай смалы і разагрэтых да непрытомнасці палявых траў, прыправіў пахам кропу з дубовым лісцем, каб потым, недзе ў сцюдзёным студзені ці ў снежным снежні адкрыць іх. Да вясны застанецца толькі люты. Ужо не так страшна, можна неяк дацягнуць.

## АБЯЦАННІ

Нам непатрэбны абяцанні. Мы ведаем ім кошт. Ён мізэрны. І з кожным днём усё меншае. Чым даваць надзею на незвычайнае, лепш маўчаць. Хай будуць нечаканасці (лепш, вядома, прыемныя). Мы вучымся. Радавацца, любіць, прайграваць. Яшчэ так шмат трэба засвоіць, каб быць падрыхтаваным. Першы вясенні ветрык прыходзіць узімку! І ён самы радасны і чаканы. І мы заплюшчваем вочы, удыхаем яго — і робімся яго часткай. Часткай нечага большага, чым мы ёсць.

Бразілія — ад назвы аднайменнага дрэва, драўніна якога нагадвала распаленныя вуголлі — «бразіль», калі па-партугальску.

# Шчаслівы збег дзесяці акалічнасцей, Або «10 прычын выбраць «Зубронак»





## ПРЫЧЫНА-АКАЛІЧНАСЦЬ...

***...першая. Нарач.*** Прыгажосцю мясцін можна любавацца колькі заўгодна зранку да вечара. Эстэтычныя ўражанні ад навакolля — гэта ўвогуле вельмі значная частка ўспамінаў з адпачынку. А колькі фонаў для прыгожых фотаздымкаў можна знайсці! Сябры «Вконтакте» абавязкова ацэняць.

***...другая. Важатыя.*** Гэта тыя людзі, якія дакладна паклапоцяцца пра тое, каб ты не сумаваў. У «Зубронку» яны захоплены сваёй працай так, што ты адчуеш гэта з першага ж дня. За 21 дзень яны стануць для цябе бацькамі, старэйшымі сябрамі, амаль што братамі і сёстрамі. Нават самыя трывалыя выхаванцы ледзь не галосяць, ад'язджаючы дадому.

***...трэцяя. Актыўны адпачынак.*** Для тых, хто не можа ўседзець на месцы, ёсць басейн, спартыўныя залы, стадыёны і нават цір.

***...чацвёртая. Гурткі.*** Калі ты — не аматар бегаць з мячом ці плаваць навыперадкі, то можаш бавіць час за рукадзеллем, фатаграфаваннем і г.д. Гэта добрая нагода даведацца пра нешта новае і знайсці цікаўнасці пад свой настрой і характар. Арыгамі, квілінг, скрапбукінг… Не ведаеш, што гэта? У «Зубронку» табе ўсё распавядуць і ўсяму навучаць.

***...пятая. Цікавыя традыцыі*** (пра іх мы паступова будзем распавядаць у наступных нумарах «Бярозкі»). Яніна Раманюк, выхаванка 2007 года, прыгадала вечаровыя спевы, калі перад











сном увесь атрад разам з важатымі збіраліся ў гурток і спявалі, каб атрымаць добры настрой, эмацыйную разрадку, каб яшчэ больш аб'яднаць людзей, якія часова сталі блізкімі адно для аднаго.

***...шостая. Меню.*** Тут, як той казаў, дзве навіны і абедзве добрыя. Па-першае, можна прыслухацца да жаданняў свайго арганізма і выбраць з прапанаванага меню тое, што яму хочацца. Па-другое, выбіраць увогуле ёсць з чаго. «Не думаю, што ў кожным лагеры прапаноўваюць бутэрброды з фарэллю ці чырвонай ікрой», — згадвае свае гастранамічныя ўражанні Алена Рэманюк, выхаванка 2014 года.

***...сёмая. Выхаванне.*** Калі дома прыбіраюць ложак і раскладаюць па месцах рэчы за вас бацькі, то пасля адной толькі змены ў «Зубронку» вы будзеце рабіць гэта самастойна. «Зубронак» выхоўвае і іншыя добрыя якасці: вы вернецеся адказным, здольным да разумення і спачування, больш шчырым і добрым, чым раней. Гэта пацвярджае не адно пакаленне выхаванцаў.

***...восьмая. Дзень нараджэння «Зубронка».*** Калі паехаць туды ў канцы лета, можна трапіць на гэта заўсёды вялікае свята. «Эх, памятаю, як да нас прыязджаў спявак Дзядзя Ваня, ладзіў для нас канцэрт, а потым мы бралі ў яго аўтографы!» — з захапленнем прыгадала Таццяна Морава, выхаванка «Зубронка» 2006—2008 гадоў.



***...дзявятая. Іншыя святы.*** Нават калі ты не трапіш менавіта на Дзень нараджэння, не сумуй. Кожнае свята ў цэнтры адзначаюць так, каб пра яго доўга памяталі: частуюць ласункамі, ладзяць вечарыны… Па сакрэце: у святочныя дні нават класціся спаць можна пазней.

***...дзясятая, апошняя.*** Атмасфера сапраўднага дзяцінства і сяброўства. На 21 дзень ты можаш забыцца на ўсё, што турбавала за мяжой цэнтра, а проста прыемна бавіць час з такімі ж бесклапотнымі сябрамі з усёй краіны і нават з замежжа. Практыка паказвае, што значная частка такіх знаёмстваў працягваецца і па-за межамі цэнтра.

***Кацярына ЗАХАРЭВІЧ***



# Веласіпед сярод музычных інструментаў

***Вядомы спявак, фіналіст конкурсу «Еўрабачанне-2014» Тэа пагадзіўся паказаць чытачам часопіса «Бярозка», што з матэрыяльнага для яго даражэй за ўсё.***



Кожны музыкант як самае дарагое беражэ свой першы інструмент. Тэа — не выключэнне. Ён захоўвае сваю першую гітару.



Не абышлося без напамінаў з «Еўрабачання». Маракасы, якія ездзілі з Тэа ў Капенгаген.



З немузычных каштоўнасцей Тэа вылучыў веласіпед, які ён атрымаў на дзень нараджэння.



Медыятар са студыі гуказапісу «Эбі-Роуд» у Лондане. У гэтай студыі запісвалі свае песні самыя легендарныя рок-гурты.

## НАМАЛЮЙ ТЭА





*Праект мастака Аляксандра КАРШАКЕВІЧА*

# У вясны крыло зялёнае



*Мастачка Аліса МАТАВІЛАВА*

## ВЯСНОВАЕ

Вясна яснавокая,
Доўгачаканная,
Ружовашчокая,
Вельмі жаданная.
Пяшчотныя кветкі,
Прыемныя гукі…
Выводзяць суседкі
Да сонейка ўнукаў.
Малыя шчасліва
Глядзяць з-пад далоняў:
Шпакі клапатліва
Снуюць ля шпакоўняў.
Клічуць знаёмыя
Сцежкі вясновыя.
Побач — вядомае,
Побач і — новае!
Дрэвы абноўлены

Памаладзелыя.
Словамі ўлоўлены
Вобразы смелыя.
Неба лагоднае,
З сіні сатканае.
Ветрык пагойдвае
Лісце веснянае.

Ліберыя — ад лацінскага liber, што азначае «свабодны». Названа так таму, бо сюды ў XIX стагоддзі прывозілі з ЗША былых чарнаскурых рабоў, выкупленых у гаспадароў.

## БЯРОЗКА І ДЗЕЦІ

Быў дзень вясновы, урачысты.
Гарэла вогнішча іскрыста,
Дымок закружваўся ўгары.
Было прыемна дзетвары.
Чыталі вершы, пелі песні,
Цяплом іх песціў вечар весні.
Расла бярозка недалёка
З купчастай кронаю шырокай.
Бярозку смех дзіцячы цешыў:
Гучала столькі песняў, вершаў…
Цямнела хутка наваколле —
Ярчэй свяцілася вуголле.
І дзеці сцішана сядзелі,
На жар задумліва глядзелі.
Алесь парушыў цішыню:
— А праўда, сумна без агню?
Хадзем дахаты!
— А вуголле?
— Няхай патушаць Ігар з Колем.
— Само патухне, не бяда!
Дахаты дружна ўсе гайда!
Пакажам свой спартыўны бег!
І тупат ног, і крык, і смех…
Усе пабеглі…
Што ж такое?!
Бярозка ў страшным непакоі.
Яна трывожна зашумела:
— Вяр-ні-це-ся!..
А ветрык смела
Пачаў вуголле раздзімаць,
Букеты іскраў рассыпаць.
Навокал глеба тарфяная,
Праход агню не засланяе…
А дзецям сніўся сон цікавы:
Бярозка ў пацерках бялявых.



Галінкі ў танцы модным гнуцца
І кожным лісцікам смяюцца.
Ды так прыветна і пяшчотна!..
А раніца была журботнай.
Глядзелі хлопчыкі ў зняменні
На абгарэлае карэнне.
Яно, застылае, чарнела.
Бярозка моўчкі боль цярпела.
Ледзь-ледзь уздрыгвала лістота…
І дзецям так было самотна,
І так няўтульна і жахліва.
Яны глядзелі палахліва:
Як быццам тут прайшла вайна…
А побач звонкая вясна
Буяла ў лісцях, кветках, травах,
Свяціла сонейкам ласкавым,
Па гаспадарску шчыравала
І на забавы запрашала.

Не чулі хлопчыкі вясну.
Ім бы ўчарашні дзень вярнуць
І завяршыць яго іначай…
Без слёз бярозка — сэрцам плача!

## ДЗІЦЯЧЫЯ РАДАСЦІ

Нясе самалёцік хлопчык.
У неба будзе пускаць.
Якія шчаслівыя вочы —
Жаданнем палёту блішчаць.
Гуляе з мячом малая,
Пра сонца спявае яна…
Пад лёгкім подыхам мая
Дзіцячая крочыць вясна.
На лузе ідзе карагодам
Стракаты вяночак дзяцей —
Жыцця маладыя ўсходы
І іскаркі нашых надзей.
І ты з асалодай адзначыш,
Пачуеш іх смех калі:
— Лепшая музыка — смех дзіцячы —
Хай грае на ўсёй зямлі!

Калумбія
названа так
у 1886 годзе ў гонар
Хрыстафора Калумба.
Раней краіна
называлася Новая
Гранада.

## КРЫЛЫ ГОДА



У вясны крыло зялёнае,
Майскім ветрыкам натхнёнае.
І капрызнае, і рахманае,
Працавітае, недаспанае.
І бадзёрае, і песеннае…
У вясны крыло веседнае!

У лета крыло каляровае,
Стагалосае, штодзень новае:
І паходнае, і купальнае,
І вандроўнае, і займальнае,
І чарнічнае, і сунічнае,
І жытнёвае, і пшанічнае.

У восені крыло жоўта-шэрае,
Усё ўзважвае, усё мерае.
Пахне яблыкам, пахне моркваю…
І салодкае, крышку горкае.
То лагоднае, то зласлівае,
То смяшлівае, то плаксівае.

У зімы крыло сіне-белае.
Заінелае, запацелае,
Са сняжынкамі
Ды з ільдзінкамі.
У зімы крыло мнагаслойнае,
І калючае, і сцюдзёнае.
І завейнае, і адліжнае,
Канькабежнае, санка-лыжнае.
У зімы крыло дзед-марознае,
І смяшлівае, і сур'ёзнае.
У зімы крыло снегасыпнае,
Прынцыповае, безпрынцыпнае,
То пагрознае, то лагоднае…
Навагодняе, карагоднае!

***Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ***

Ісландыя — «ледзяная краіна». Мясцовыя жыхары знарок назвалі так гэты востраў, каб адвадзіць чужынцаў.



***Вершы Ніны Галіноўскай, юны дружа, чыталі, калі былі такімі, як ты, не толькі твае мама і тата, але нават твае бабулі і дзядулі. Папытайся ў іх, ці памятаюць яны Зая-прагназіста?***

# Каменьчык на двaіх



Калі сонца хаваецца за скалой, у мора быццам нехта налівае зялёна-сіняга атраманту — такі густы колер вады, што яна сама гусцее, і хвалі коцяцца павольна, ляніва напаўзаюць на апусцелы бераг, не шумяць, як днём. Мора адпачывае… Мне цяпер хочацца глядзець толькі на мора. І больш нічога не хочацца. Зусім. Сядзець і глядзець. І маўчаць…

І Янка маўчыць. Калі правільна, дык трэба казаць Янко, бо ён — славак, а не беларус. Але першы час мне было цяжка казаць так, і Янка зусім не пакрыўдзіўся, калі я пачала называць яго па-беларуску. Дык вось, Янка таксама маўчыць. Ён ужо стаміўся зіркаць па баках, вышукваючы хоць нешта яшчэ, што магло б мяне зацікавіць, стаміўся прапаноўваць і чуць: «Не хачу». У яго трохі вінаваты выгляд, ён, мабыць, лічыць, што мой настрой — з-за яго, што ён не ўмее, не можа развесяліць мяне ці зацікавіць нечым. Мама ці то смехам, ці то сур'ёзна сказала, што Янка — сапраўдны мужчына і кавалер, хоць усяго на год за мяне старэйшы. І што ён вельмі адказны за тых, хто з ім поруч. Ці то яго мама, ці то маленькая сястрычка, ці то вось я…

У мяне дзіўная мама… Яна ўвесь час кажа, што нашы думкі — матэрыяльныя. Быццам, калі пра нешта вельмі многа і моцна думаць, дык яно абавязкова будзе. Тата пасмейваецца з яе цішком, а мама горача даводзіць: у што верыш, тое і будзе! Трэба верыць і імкнуцца. І тады мары здзяйсняюцца.

Мама так і сказала перад тым, як мы паехалі на мора: вось, я ж марыла пра тое, што ўбачу Адрыятычнае мора — і ўбачу!



Тут не паспрачаешся. Мы на Адрыятычным моры… А ведаеце, што самае цікавае на моры для мяне? Каменьчыкі! Божухна, тут столькі іх на беразе! Якія яны розныя, якія сустракаюцца прыгожыя — ну проста вочы разбягаюцца! Калі мы з мамай прыйшлі першы раз на пляж, то я быццам прырасла да берага. Выбірала, перабірала, адбірала самыя прыгожыя з прыгожых, але ўсё роўна іх было многа! Я ўсё бегла да мамы і паказвала ёй чарговую знаходку: «Паглядзі, які прыгожы!»

Вось з-за каменьчыкаў мы і пазнаёміліся з Янкам. Але не, не з-за каменьчыкаў. То з-за нашай беларускай мовы. Мама Янкі, ён сам і яго маленькая сястрычка размясціліся на пяску побач з намі. І яны так зацікавіліся, як мы з мамай размаўляем, што мама Янкі не вытрымала і звярнулася да нас быццам па-беларуску, але так незвычайна!

Вось так мы сядзелі і дзівіліся. Быццам на адной мове размаўляем, але ж — не! І пасля смяяліся, калі даведаліся, што яны славакі. Нашы мовы такія падобныя, што мы без цяжкасцей разумелі адно аднаго. Канешне, шмат было слоў незразумелых спачатку, але дастаткова было ці то націск пераставіць, ці то паўтарыць два-тры разы. Падказаць.

І мы пасябравалі ў першы ж дзень.

Мама Янкі — настаўніца. Нам было з мамай трошкі крыўдна, што яны амаль нічога не ведаюць пра Беларусь. І я расказвала Янку пра нашу краіну. А Янка мне — пра сваю.

Калі Янка пабачыў, што мне вельмі падабаюцца каменьчыкі, ён спытаўся дазволу і прапанаваў мне пайсці трошкі далей, там, дзе не было пляжу, дзе камяні, скала навісае над вадой. Мы пайшлі. Янка паказаў мне сапраўдную кварцавую жылу ў скале! Кварц — гэта такі камень, амаль празрысты, ён — напаўкаштоўны, не абы-які! Янка мне адбіў невялікі кавалачак. А мне так спадабалася хадзіць па вялікіх камянях. Трошкі небяспечна, я спачатку губляла раўнавагу, і Янка мяне падтрымліваў за руку, перасцерагаў: дзе які камень будзе коўзкі, які можа шавяльнуцца пад нагой. І мы ішлі з ім па камянях — Янка наперадзе, я за ім, трымаючыся за яго руку…

А потым мы лавілі крабаў! Ух ты, калі Янка паказаў мне першага маленькага крабіка, я так радавалася! Быццам няўклюдны, а ў вадзе такі шпаркі! Мы злавілі аднаго і прынеслі паказаць нашым мамам і сястрычцы Янкі. А потым адпусцілі крабіка пад камяні.

А яшчэ Янка нырaў глыбока-глыбока! І даставаў мне такое з глыбіні! Я пабачыла сапраўднага марскога вожыка! Ён такі пацешны, іголкі амаль не колюцца і шавеляцца асобна ад вожыка. І ўвогуле, гэты вожык — адны іголкі і роцік! А яшчэ — марскі агурок… Вой, ён брыдкі, нейкі паўмёртвы… А потым Янка паказаў мне сапраўдных актыній. Праўда, невялікіх. На іх так цікава глядзець на невялікай глыбіні, вада празрыстая-празрыстая, і яны там — як кветачкі на дне…

Потым мы сядзелі на вялікім камені далёка ад берага. Я боўтала нагамі ў вадзе, а да маіх ног падплывалі маленькія рыбкі — сардзінкі. Яны так зіхацелі ў празрыстай вадзе, былі такімі прыгожымі…

І сонца было асляпляльным, вада калыхалася, заварожвала, між камянямі поўзалі маленькія крабы. А побач сядзеў Янка і пільна назіраў за мной, бо яго мама яму сказала, што ён цалкам за мяне адказвае…

Я ледзь змагла заснуць у сваю першую ноч адпачынку. Столькі ўражанняў, столькі ўсяго новага!

А назаўтра мы прыйшлі з мамай на пляж… а Янкі, яго мамы з сястрычкай не пабачылі. Увогуле, там было шмат людзей, мы доўга шукалі сабе месца бліжэй да вады. Знайшлі, але мне было трошкі сумна. Тады я спыталася ў мамы і пайшла на той камень, дзе мы ўчора з Янкам, як стаміліся, сядзелі.

Я яшчэ не дайшла да каменя, калі пабачыла Янку — ён хутка і спрытна, пераскокваючы з каменя на камень, набліжаўся да нашага месца. Мы павіталіся і ўсміхнуліся радасна адно аднаму. Я бачыла, што Янка рады мяне бачыць, і мне самой было радасна пабачыць яго, а яшчэ было радасна ад таго, што і яму радасна… Вось, заблыталася я зусім…

— А мы для вас месца занялі! — пахваліўся Янка. — Хадзем. Пакажу. Там вельмі ўтульна і людзей мала!

Вось так мы сталі сябраваць.

Ой, колькі мы ўсяго пабачылі разам! Мамы адпускалі нас лазіць невысока па скалах, там так незвычайна. Янка прыносіў маскі, мы ныралі на глыбіню і выглядвалі на дне розныя цікавосткі. Палявалі на крабікаў, шукалі прыгожыя каменьчыкі, будавалі для сястрычкі Янкі горад з пяску… Яшчэ мы разам (за грошы, вядома, а як інакш) нанялі лодку з рыбаком і хадзілі раніцай у адкрытае мора — лавіць сапраўдную, вялікую рыбу! Ух! Я злавіла тры вялікія рыбіны! Такія ў нас у магазіне прадаюцца, скумбрыя называецца. Але ў магазіне яна непрыгожая, а тут — такая бліскучая, быццам са срэбра! І Янка злавіў некалькі такіх рыбін, і нават нашы мамы! І пасля мы разам смажылі злоўленую рыбу, частаваліся, елі — колькі хацелі!

А вечарам гулялі ўздоўж берага мора. Гэтулькі людзей! Весела, агні паўсюль, усюды смачна пахне, з усіх куткоў цябе клічуць: заходзьце да нас, купіце ў нас! Мы куплялі марозіва, напоі, сувеніры…

А яшчэ ў нас з Янкам быў наш камень, той самы, на якім мы адпачывалі ў першы дзень. Камень быў далекавата ад берага, тут было глыбока нават, таму на камені Янка заўсёды трымаў мяне за руку. Бо хваляваўся. Ён жа адказваў за мяне…

Мы любілі сядзець там, калі сонца хілілася да мора, хавалася за скалой, што была за нашымі спінамі. Камень быў лагодным і цёплым, а Янкава рука — дужай. Там я вучыла Янку нашай беларускай мове, а Янка мяне — славацкай. І мы смяяліся, калі я ці ён смешна паўтаралі нязвыклыя для вымаўлення словы.

…Мы сядзім на камені, а мне не проста сумна. Нешта незразумелае замінае мне глядзець на мора і скалу, блытаюцца думкі, я не ведаю, пра што думаць. І вельмі крыўдую на сябе, што з-за майго незразумелага настрою, з-за маіх капрызаў замаркоціўся Янка.

Я не маленькая дзяўчынка, і мама казала мне не адзін раз, што трэба трымаць сябе ў руках, падпарадкоўваць свой настрой. Я вызваляю руку з-пад Янкавай далоні, кладу зверху сваю і ціха прызнаюся:

— Ты не перажывай, ты ні ў чым не вінаваты, што я цяпер такая… Проста мне ніяк не верыцца, што заўтра не будзе мора… гэтага берага… каменя…

Так, заўтра не будзе. Нічога не будзе. Бо заўтра мы з мамай ад'язджаем. Рана-раненька. Янка ведае пра гэта.

— Будэ смутнэ бэз тэбэ, — трошкі хрыпата кажа ён, і я рэхам адгукаюся, кажу на сваёй роднай мове, бо так мы заўсёды робім з Янкам, каб даведацца, ці правільна разумеем адно аднаго:

— Будзе сумна без цябе…

Янка зазірае мне ў вочы і нясмела ўсміхаецца, быццам просіць не сумаваць.

— Там інтэрнэт…

— Ёсць, — уздыхаю я і кажу: — Не люблю. Там… быццам несапраўднае.

— Чаму? — здзіўляецца Янка.

— Таму, — ціха адказваю я. — Мама расказвала, што раней людзі пісалі лісты. Сваёй рукой, на паперы. І калі чалавек атрымліваў такі ліст, ён бачыў, як ён пісаўся. Нават пах заставаўся…

Янка асцярожна сціскае мае пальцы сваімі і абяцае на славацкай мове:

— Будэм пісат. Напішэм вам…

— Я буду пісаць табе, — перакладаю я.

— Я буду пісат тэбэ, — паўтарае Янка, раптам узнімаецца і цягне мяне за руку: — Под со мною…

Я не пытаюся, куды. Бо ведаю: Янка ніколі не кліча проста так.

Ён вядзе мяне да скалы, па камянях, увесь час трымаючы мяне за руку, азіраецца штораз, каб бачыць, ці роўна я стаю, ці не хіснуўся пада мной камень. Вось жа…

На беразе ідзём да скалы, там Янка пускае маю руку, я разумею, што мне трэба пачакаць. Ён ідзе да глыбокай расшчэліны, соўгае туды руку, нешта намацвае… Вяртаецца да мяне з невялікім, амаль паўпразрыстым зеленаватым каменьчыкам.

— Тэраз… — кажа ён і зноў бярэ мяне за руку, вядзе да берага, дзе многа вялікіх камянёў.

— Зараз… — пакорлівым рэхам паўтараю я.

Янка прысядае, бярэ камень… Кладзе свой прыгожы каменьчык на другі камень, крыху размахваецца і б'е. Яшчэ і яшчэ раз.

Устае, працягвае мне далонь. Два кавалачкі каменя. На зломе палавінкі блішчаць насычаным цёмна-зялёным колерам.

Вось смешны. Працягвае далонь і зазірае мне ў вочы. Я таксама гляджу ў вочы Янку і бяру адну палавінку каменьчыка з яго далоні, сціскаю… Каменьчык цёплы…

Я не ведаю, чаму так атрымалася… Але мы не развіталіся з Янкам. Мы проста разышліся з ім… кожны са сваёй паловай каменьчыка. А што было казаць? Я не ведаю…

Потым мы вячэралі з мамай, збіралі рэчы, клаліся спаць. Каменьчык быў са мною, у руцэ. Раніцай прыйшоў аўтобус, мы селі і ехалі доўга-доўга… Некалькі дзён. Я трымала каменьчык, а ён быў такім цёплым… І я ведала, што ў гэты час Янка таксама трымае ў руцэ сваю палову каменьчыка.

# Каралева шэрых мышэй



Усе адразу вам скажуць: першая змена ў летніку — самая нецікавая. Чаму? Ды таму, што на першую змену адпраўляюць тых дзяцей, якіх больш няма куды падзець. Бо ў бацькоў адпачынак яшчэ не пачынаўся, нешта не спланавалася, не склалася. Вось нас і спіхваюць у летнік. Гэта ў другую ці трэцюю змену дамаўляешся з сяброўкамі, прыязджаеш — і адразу ёсць з кім бавіць час, прыдумляць розныя штукарствы, каб не было сумна.

Мне гэтым летам не пашанцавала: бабуля занядужала і яе на тыдзень паклалі ў шпіталь. Вось і патрапіла я на першую змену — у мама і таты адпачынак толькі праз месяц.

У летніку я ўжо была адзін раз. І, шчыра вам скажу, было не надта цікава. Бо неяк так атрымлівалася, што не мы самі прыдумлялі рознае і цікавае, а важатыя за нас гэта рабілі. А мы павінны былі ўдзельнічаць у розных конкурсах ды забавах… Я б сама хацела нешта прыдумаць.

А яшчэ… Так атрымліваецца, вось не ведаю чаму, але ці не ў кожным атрадзе бывае адна ці дзве дзяўчынкі, якія застаюцца самотнымі. Ні з кім яны не сябруюць, незаўважныя, ціхія і баязлівыя. Зразумела, гэта тыя самыя шэрыя мышкі. Яны і ў кожным класе ёсць, але там неяк прасцей, а вось у лагеры, дзе на кароткі час усе збіраюцца разам, дзе хутка-хутка трэба

знаёміцца, паказваць самыя розныя свае здольнасці, такім дзяўчынкам цяжка!

Вось і цяпер: у нашым пакоі — шасцёра. Пяцёра дзяўчынак звычайныя. А адна, Кацярына, самая што ні на ёсць шэрая мышка: хударлявая, тварык невыразны, апранута сціпла. І нават валасы на галаве сабраны ў тонкі хвосцік ззаду. Толькі імя сваё назвала, адразу села ў куточак, дастала электронную кнігу — і ўжо чытае. Ніхто і нішто яе не цікавіць. Мы з дзяўчынкамі ў першы ж вечар вырашылі размалёўваць сябе вампірамі ды ведзьмамі.

— Кацярынка, — гукнула я нашу шэрую мышку. — Давай да нас, мы з цябе мёртвую царэўну зробім.

— Ат, не чапай ты яе, — запярэчыла адна з дзяўчынак, Таццяна, і распавяла: — Кацьку нашу нікуды не выцягнуць, яна баязліўка і нічога не ўмее!

Кацярынка ў сваім куточку толькі пачырванела, але не азірнулася нават. І тады я падумала…

Падумала пра тое, што ў кожным пакоі летніка ёсць свая шэрая мышка. Так заўсёды бывае — сярод шасці дзяўчынак знойдзецца адна, самая сціплая ды баязлівая.

Пасля сняданку ў нас быў вольны час, я падышла да Кацярынкі, узяла яе за руку і кажу:

— Хадзем са мной!

Яна паглядзела на мяне разгублена, нават трошкі са страхам. Але я паўтарыла знарок шэптам:

— Хадзем… пагутарыць трэба, справа ёсць важная!

Ля нашага спальнага корпуса рос вялікі куст бэзу. А за тым кустом — яшчэ шмат кустоў, як стагі. Там заблукаць нават можна. Але я ведала, што калі ісці і ведаць, куды ідзеш, дык там, сярод кустоў, такая патаемная палянка ёсць! Вельмі ўтульная.

— Пойдзем у разведку! — рашуча сказала я і пацягнула за руку Кацярынку.

Ішлі мы асцярожна, каб надта не пакідаць пасля сябе слядоў. Вось і паляна… От жа, тут крапівы нарасло!

— Бачыш? — спытала я Кацярынку.

— Бачу, — ціха адказала Кацярынка. — А што?

Я патлумачыла:

— Тут крапіва. Калі крапіву парваць, дык будзе добрая паляна. А калі будзе добрая паляна, дык будзе выдатнае месца для нас.

— Для каго? — зацікавілася Кацярынка, і — вось паверце — яе вочы заблішчалі.

— Для нас з табой! — выгукнула я. — І яшчэ для некага. Але іх усіх трэба сюды прывесці.

— Каго ўсіх? — дзівіцца Кацярынка.

А мне ўжо радасна, што яна дзівіцца.

— Як каго? Усіх-усіх шэрых мышак нашага летніка! Мы збяромся разам і ў нас будзе свой атрад, з адных шэрых мышак, у якім асобных шэрых мышак не будзе! Зразумела? Хочаш быць у такім атрадзе? Пойдзем?

— Пойдзем… — амаль ужо радасна адказала Кацярынка.

І мы з ёй пайшлі па атрадах летніка. Заходзілі ва ўсе пакоі да дзяўчынак і пыталіся:

— У вас ёсць шэрая мышка? Хто шэрая мышка?

Так да нас далучылася Ліза — паўнаватая дзяўчынка з дзвюма коскамі, у акулярах і з рабаціннем на твары, Галінка — дзяўчынка з самага малодшага атрада, такая баязлівая, што мне давялося трымаць яе ўвесь час за руку. А яшчэ — Марыйка, Алёнка і самая старэйшая — Зося. Яна на цэлую галаву вышэй за мяне, і з выгляду такая дужая! А вось жа — шэрая мышка.

Мы ўсе разам прыйшлі на нашу сакрэтную паляну. І там я сказала, што мы ствараем свой атрад — «Шэрая мышка»! Гэта будзе наш таямнічы атрад. У якім усе будуць роўныя і кожны будзе бараніць сябра ад усіх астатніх з іншых атрадаў. А яшчэ я патлумачыла:

— Мне таксама бывае страшна. А страх — ён жа адзін, а нас вунь колькі многа! То на кожнага прыпадае зусім па трошкі. Праўда ж? Я некалі была ў дзіцячым садку каралевай мышак. Дык, як раззла-

валася, напужала ката! — распавяла я пра даўнюю гісторыю. — А калі мышак многа, хто з імі справіцца? Калі хто са мной згодны — давайце рваць крапіву!

Усе згадзіліся!

Гэта было наша першае сапраўднае выпрабаванне. Крапіва была высокай, такой джгалкай! Марыйка выявілася сапраўднай вясковай гаспадынькай. Яна сказала, што напачатку трэба нашукаць вялікіх лістоў лопуху, пасля наша Зося будзе палкай нахіляць крапіву, а астатнія — ірваць!

Праз паўгадзіны ў нас была чыстая ад крапівы паляна. Але як мы ні ахайна рвалі, рукі ў пухлінках, чэшуцца! Тут Алёнка павольна, але аўтарытэтна прамовіла:

— Месцы апёкаў трэба прамыць халоднай чыстай вадой.

— А я ведаю як адсюль прайсці незаўважна да ручая… — усміхнулася Зося. — Я ж у мінулым годзе тут была…

І мы крадком пайшлі, хаваючыся ў кустах бэзу, да недалёкага ручая. Халодная вада лекавала нашы рукі…

Пасля мы сядзелі на паляне і расказвалі кожная пра сябе: без сарамлівасці, бо мы ж усе былі сарамлівыя! Хто што ўмее рабіць, што лепш ведае, як каму жывецца…

У гэты ж дзень мы сабраліся зноў і было столькі розных прапаноў!

Па-першае, мы вырашылі хадзіць у аднолькавых шэрых саколках. Іх сёння ж вечарам можа прывезці тата Лізы — ён прадпрымальнік, у яго магазіны адзення! А грошы мы збяром пасля, папросім у бацькоў. Па-другое, на гэтых саколках мы змесцім малюнак мышкі! Трафарэт зробяць Кацярынка і Галінка, фарбу знойдзе Зося. Па-трэцяе, я прызналася дзяўчынкам, што займаюся дзюдо і буду вучыць прыёмам. Усе так узрадаваліся!

Так у нас атрымаўся наш «Шэры» атрад. Сапраўдны! Праз дзень мы ў сваіх шэрых саколках з выявамі мышак на спінах пайшлі ў сталоўку і селі за адзін стол. З нас так усе дзівіліся, быццам мы — іншапланецяне! А мы яшчэ прыдумалі: папрасілі бацьку Лізы, і ён нам прывёз амаль шэрыя бейсболкі, ну, шапкі такія з вялікімі картузамі. Мы насілі бейсболкі картузамі на левы бок. І на іх таксама намалявалі мышак!

Увесь вольны час мы былі цяпер разам. Нам было цікава! Марыйка так шмат ведала пра расліны, Алёнка вучыла лекаваць драпіны, без якіх ніяк не абысціся, Зося чытала вершы, Галінка магла за паўгадзіны намаляваць на любую з нас такі вясёлы шарж! І мы гулялі ў розныя гульні. А перад вячэрай у нас быў самы сур'ёзны час: я вучыла дзяўчынак, як бараніць сябе ад хуліганаў.

А яшчэ мы дамовіліся вось пра што: калі некаму з нас будзе патрэбна дапамога, няважна якая, калі ён апынецца адзін і яму стане страшна, дык трэба гучна крыкнуць: «Мышы!»

Я і не думала нават, што мне першай давядзецца паклікаць на дапамогу. Размаўляла з мамай па тэлефоне і затрымалася, калі вярталіся са сталоўкі. Вось і засталася зусім адна… без сваіх мышак. Ішла ў спальны корпус, каб пераапрануцца для заняткаў дзюдо, а мяне перастрэлі.

Два браты-хуліганы Віцька і Вадзім. Я не перабольшваю, яшчэ ў мінулым годзе яны тут былі, гэткія шкодлівыя. Нават бацькоў начальнік лагера выклікаў: важатых не слухаюць, меншых крыўдзяць, да дзяўчынак чапляюцца, зневажаюць. Па праўдзе, я трошкі іх пабойвалася. Бо старэйшы брат — Вадзім — амаль дарослы ўжо, удвая за мяне цяжэйшы, а некалі, ведаю, ён таксама дзюдо займаўся, але трэнер яго выгнаў за парушэнні дысцыпліны. Мы з ім, атрымліваецца, у розных вагавых катэгорыях… Не, мне з ім нічога не зрабіць…

— Ага, наша шэрая каралева лапкамі перабірае! — выскаліўся Вадзім. — Ну, мышаня, кажуць, ты медалік на спаборніцтвах заваявала? А пакажы прыёмчык, га? А то я ўжо забыўся…

— Сыдзі з дарогі, — ціха прамовіла я, а ў самой усё ўнутры сціснулася. Так не-

прыемна гэта… А вакол яшчэ хлапчукі прыпыніліся, дзяўчынкі, стаяць, дзівяцца. А што ім — не надта весела ў летніку, тут любое здарэнне — цікавасць вялікая! І ніхто ні слоўца не збіраецца сказаць — такія твары ва ўсіх…

— Гы, Вадзік, глядзі, якая бейсболка файная! — і рукой да мяне пацягнууўся меншы з братоў, Віцька. — Я такую даўно хачу… Маляўка шэрая, дай панасіць, а?

— Не цягні рукі, дурань, — спыніў брата Вадзім. — А то хопіць за руку і бразне прыёмчыкам… Што, шэранькая, дасі бейсболачку панасіць?

Я азірнулася бездапаможна… І важатых не відаць. Але не клікаць жа іх, я не маленькая…

— Ну, шэранькая, дай шапку, — Вадзім наблізіўся і я раптам успомніла: шэранькая я не адна! І закрычала:

— Мышы! Мышы!!!

Вадзім аж вочы вылупіў ад неспадзеўкі. Які мышы, дзе? Глядзіць то на мяне, то сабе пад ногі, лыпае вачыма.

І раптам… Ён ад штуршка ў спіну ледзь не паляцеў потарч. Гэта наша Зося, яна амаль роўная ростам з ім, так яго штурхнула з усяго разбегу. А твар чырвоны, рашучы, злосны! Стала поруч, кулакі сціснула. І адразу — Алёнка прыбегла, і маленькая наша Галінка, і Ліза, і Кацярынка, і Марыйка. Усе! І мы сталі плячук да плечука.

— Ды ну іх! — сказаў разгублена Вадзім. — Наляцела малышня…

І яны пайшлі, а ўсе астатнія, якія моўчкі сталі вакол, глядзелі на нас, дзяўчынак у шэрых саколках, у бейсболках з картузамі набок, быццам мы зрабілі нешта такое незвычайнае, як на гімнастак у цырку…

А я ўскінула руку і крыкнула весела і пераможна:

— Шэрыя мышкі!

І не згаворваліся раней, а само сабой атрымалася — усе дзяўчынкі побач таксама ўскінулі рукі і выгукнулі:

— Жывём!

І мы пайшлі разам па дарожцы, а перад намі так паважліва расступіліся…

Калі я пераапранулася ў спартыўную форму — нас чакалі заняткі па дзюдо — і выйшла з пакоя, пабачыла дзвюх незнаёмых дзяўчынак у калідоры. Яны чакалі мяне, бо адразу ж пайшлі мне насустрач.

— Жэнька, вазьмі нас у свой атрад…

— Вазьмі, калі ласка… мы і саколкі ўжо такія ж набылі… І бейсболкі ёсць…

Я разгубілася.

— Дык… я не камандзір, гэта не я вырашаю.

— Ты — каралева шэрых мышак, — запярэчыла адна дзяўчынка, а другая дадала: — Мы пыталіся ў твайго атрада, нам усе сказалі: ты каралева, ты ўсё вырашаеш…

— Ай, хадземце да ўсіх, там разбяромся! — радасна адказала я.

І пакуль мы ішлі да нашай паляны, я ўспомніла, як падумала ў дзіцячым садку пра каралеву мышак: быць каралевай — гэта ў першую чаргу — адказваць.

***Валерый ГАПЕЕЎ***
***Мастачка Алеся ГАЛОТА***

*Валерый Гапееў — пісьменнік дарослы і дзіцячы адначасова — верыць, што толькі з любоўю напісаны твор мае жывых герояў. Бо чытаеш тады — і не на паперы ўсё перад табою, а ў душы тваёй. «І росная трава табе халодзіць ногі…»*



# Залаценькі куфэрак

Мастачка Алеся ГАЛОТА

*Паелі нашча саладухі,*
*Камоў з смятанай і глазухі,*
*Пайшлі у горад пагуляць.*

Гэта ты прачытаеш, дружа, у «Энэідзе навыварат» — парадыйнай ананімнай (гэта калі невядома, хто аўтар) паэме, створанай у першай палове XIX стагоддзя. І калі ты (малайчынка!) дакладна ведаеш, што саладуха — гэта страва, прыгатаваная з жытняй мукі і мёду (тры разы ў снезе ахаладжаная, тры разы ў печы ўгрэтая), а камы — каша з тоўчанай бульбы, то — спрачаймася! — ведаць не ведаеш, што за глазуха такая!

Вядома, «глаз» слова рускае. А вось жа, глядзі ты: страва тая хоць мае вочы, і хоць усякі да яе ахвочы, а назву ёй далі — ні нашым, як кажуць, ні вашым. Але ж ці не ўсё роўна — за адну нагу вісець ці за дзве целяпацца, як зноўку кажуць? Глазуха (па-руску — глазунья) гатуецца проста. Вельмі проста. І менавіта таму тут прыведзены больш складаны, незвычайны, вытанчаны рэцэпт. І барані цябе божа зблытаць глазуху з яечняй. Гэта савой аб пень тое самае, што пнём аб саву (бо ўсё адно толькі саве баліць), а кулінарыя — справа далікатная.

Значыць, глазуха пад назвай «Залаценькі куфэрак».

*Што спатрэбіцца:*

***Белы хлеб тыпу «Ракаўскага» (або, яшчэ смачней, зерневы тыпу «Старажытнага»), курынае варанае мяса (або кавалачак варанай свініны, або некалькі скрылёчкаў варанай каўбасы — што любіш, дружа), смажаная цыбулька, трошкі маянэзу, соль, перац, алей, сметанковае масла і яйка.***

*Як гатаваць:*

Адрэзаць тоўсты кавалак хлеба, выбраць з сярэдзіны трохі мякішу, каб утварылася паглыбленне, і абсмажыць кавалак з абодвух бакоў на алеі са сметанковым маслам да залацінкі. Мяса ці каўбасу дробна пасекчы, змяшаць з цыбулькай, маянэзам, пасаліць, паперчыць і пакласці ў паглыбленне, куфар, значыцца. А зверху асцярожненька выпусціць сырое яйка, або толькі жаўточак, калі хлеб ты ўзяў «Старажытны» (ён меншы памерам). Пастаў куфэрак на колькі хвілін у духоўку, а потым — з'еш яго з гароднінаю на сняданак. «Дзясяткі», далібог, самі ў дзённік пасыплюцца.

***Дружа! Ці не хочаш ты напісаць пра страву, што сустракаецца ў літаратурным творы? Ці не хочаш, увогуле, зрабіцца вядучым «Гатавальні»? Просім!***




калі ў галаве шмат ідэй

*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для школьнікаў)*
***Выдаецца са снежня 1924 года***
***Узнагароджаны ордэнам «Знак пашаны»***



**Клуб сяброў часопіса**
*Фарміруецца з кожным нумарам, складаецца са школ аўтараў (вучняў, бацькоў і настаўнікаў), а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў.*
Мінская дзяржаўная гімназія-каледж мастацтваў, Бараўская СШ (Дзяржынскі раён), Гудагайская СШ (Астравецкі раён), Дворнасельская СШ (Міёрскі раён), Ждановіцкая СШ (Мінскі раён), Залеская СШ (Чачэрскі раён), Калодзішчанская СШ (Мінскі раён), Мар'інагорская гімназія, гімназія №1 (Свіслач), гімназія № 1 (Чэрвень), Міханавіцкая СШ (Мінскі раён), Сапоцкінская СШ (Гродзенскі раён), Чапукоўская СШ (Міёрскі раён), СШ № 12 (Гродна), СШ № 1 (Ельск), СШ №34 (Мінск), СШ № 136 (Мінск), СШ № 165 (Мінск), СШ № 201 (Мінск), гімназія № 1 імя Ф.Скарыны (Мінск), гімназія № 10 (Мінск), гімназія № 11 (Мінск), гімназія № 30 (Мінск), гімназія № 75 імя П.Масленікава (Мінск), СШ № 9 (Маладзечна), гімназія № 10 (Маладзечна), СШ № 3 (Пружаны), Пружанская гімназія, СШ № 25 (Мінск), Пагосцкая СШ (Салігорскі раён), гімназія ім. Караля (Чэрвень).



Зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ.
Рэгістрацыйны № 210.

**Заснавальнік і выдавец**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

**Адрас рэдакцыі**
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.
bjarozka@mail.ru
http://www.maladost.lim.by/berezka

**Падпісныя індэксы:**
74879 — льготны
74822 — індывідуальны
748222 — ведамасны

Падпісана да друку
Фармат 60x84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк .
Тыраж 1105 экз.
Заказ

Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «БудМедыяПраект»
220123, Мінск, вул. В. Харужай, 13/61
ЛП №02330/71 ад 23.01.2014


***На першай старонцы вокладкі — малюнак вучаніцы Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжа мастацтваў Ганны Пацюшка***





— Які ты бездапаможны! Цукар стаіць у аптэчцы, у бляшанцы з-пад кавы, на якой напісана «соль».

***Хлопчык прыходзіць з навагодняга ранішняка ўвесь падрапаны. Маці пытаецца:***

***— Што здарылася?***

***— Ды карагод вакол ёлкі вадзілі! — змрочна адказвае сын.***

***— І што?***

***— А тое! Ёлка вялікая, а дзяцей прыйшло мала…***

Падыходзіць сын да маці і пытаецца:

— Мама, а чаму гэтая цукерка называецца «Яблычак»?

— Таму, сынок, — адказвае мама, што ў гэтую цукерку далі яблык.

Падумаў сын і кажа:

— І з чаго ж тады, цікава, зроблена цукерка «Кіс-кіс»?

***У кінатэатры.***

***— Хлопчык, ты ў мяне ўжо шосты раз білет купляеш!***

***— Ды я ж не вінаваты, што нейкая цётка на ўваходзе іх увесь час ірве!***

***У школе:***

***— Сёння ў нас кантрольная!***

***— А калькулятарам можна карыстацца?***

***— Можна.***

***— А транспарцірам? А табліцай множання?***

***— Можна. Запішыце тэму: «Гісторыя ВКЛ».***

— Мама, дзе цукар? Ніяк знайсці не магу!

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Дзе аўторак ідзе раней, чым панядзелак?

**2.** Якую літару трэба схаваць за займеннікам, каб атрымаць назву ўсім вядомай жывёлы?

**3.** Якая птушка носіць назву часткі музычнага інструмента?

**4.** На якое пытанне немагчыма адказаць: «не»?

**5.** На якое пытанне нельга адказаць: «так»?

**6.** Эскімосы — выдатныя паляўнічыя і не баяцца паляваць нават на белых мядзведзяў. А вось на пінгвінаў яны ніколі не палююць. Чаму?

**7.** Які чалавек можа ўтрымаць у адной руцэ і каня, і нават слана?

**8.** У бацькі Мэры пяць дачок: Чача, Чычы, Чэчэ, Чочо. Як завуць пятую дачку?

**9.** Па якім шляху яшчэ ніхто не хадзіў і не ездзіў?

**10.** У іх адымаюць, а яны яшчэ і плоцяць. Дзе такое можа быць?

## Падарунак ад



а




*Мастак Алег КАРПОВІЧ*

Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. У слоўніку.
2. Літару «ц» схаваць за займеннікам «я» (заяц).
3. Грыф.
4. На пытанне: «Ты мяне чуеш?»
5. На пытанне: «Ты спіш?»
6. Эскімосы жывуць каля Паўночнага полюса, а пінгвіны — каля Паўднёвага.
7. Шахматыст.
8. Мэры.
9. Па Млечнаму.
10. У цырульні.

*Мінская гімназія № 75 прадстаўляе*

# ДВА ВАКЗАЛЫ



Макет рэканструкцыі цэнтральнага вакзала Лібава-Роменскай чыгункі (Мінск). Аўтар — Ліяна Радкевіч
Кіраўнік — Таццяна Васільеўна Вайтэнка



ISSN 0320-7579









Макет рэканструкцыі Аляксандраўскага вакзала Маскоўска-Брэсцкай чыгункі (Мінск). Аўтар — Іван Трус
Кіраўнік — Таццяна Васільеўна Вайтэнка